Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 44 (4844) 6 лістапада 2015 г.



Тры старонкі кастрычніка **6**



Гармонія простых рэчаў **8**



У шыбу грукаюць Дзяды **12**



Паэзія тэкстылю **16**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна з 70-годдзем. «ВНУ займае дастойнае месца ў сістэме вышэйшай адукацыі краіны. Сёння яна стала сапраўднай кузняй кадраў для Брэстчыны — з улікам патрэбнасцей рэгіёна тут рыхтуюць спецыялістаў па найбольш перспектыўных напрамках», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага мастака Беларусі Льва Гумілеўскага з 85-годдзем. «Вы зрабілі значны ўнёсак у захаванне і развіццё традыцый манументальнай і станковай скульптуры. Дзякуючы Вашаму непаўторнаму таленту нарадзіліся цудоўныя творы, якія заваявалі прызнанне ў Беларусі і за яе межамі», — адзначана ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў надзею, что Леў Гумілеўскі будзе і надалей самааддана служыць беларускай культуры, узбагачаць яе скарбніцу новымі дасягненнямі.

✔ Мерапрыемствы па захаванні, кансервацыі, рэстаўрацыі, прадугледжаныя дзяржпраграмай «Замкі Беларусі», выконваліся ў 2012 — 2015 гадах на 26 аб'ектах. Работы на 8 з іх завершаныя, яшчэ на 18 — вядуцца. Фінансаванне праводзіцца за кошт бюджэтных сродкаў і ўласных сродкаў арганізацый — выканаўцаў праграмы.

✔ Першую прэмію міжнароднага конкурсу «Новыя галасы» атрымаў саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі бас Анатоль Сіўко. «Новыя галасы» — адно з самых прэстыжных музычных спаборніцтваў у свеце. Сёлета ў ім бралі ўдзел 42 вакалісты з 26 краін свету.

✔ Беларуска Вера Шпакоўская, сямігадовая выхаванка мінскай Балетнай школы Вежнавец, увайшла ў дзясятку лепшых сярод 86 прэтэндэнтак у еўрапейскім паўфінале прэстыжнага міжнароднага балетнага конкурсу *Youth America Grand Prix 2016*, які адбудзецца ў Парыжы.

✔ Лепшым спектаклем V Рэспубліканскага фестывалю нацыянальнай драматургіі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча, які завяршыўся ў Бабруйску, прызнаная «Пінская шляхта» Палескага драматычнага тэатра (г. Пінск). Прыз за лепшую рэжысуру ўручаны рэжысёру-пастаноўшчыку Маскоўскага акадэмічнага тэатра імя У. Маякоўскага Мікіту Кобелеву за спектакль «Любоў людзей».

✔ Упершыню ў геаграфію фестывалю «Японская восень у Беларусі», якому спаўняецца тры гады, уключаная Віцебская абласная філармонія, дзе 26 лістапада адбудзецца канцэрт японскай фартэпіяннай музыкі. Публіка атрымае ўнікальную магчымасць азнаёміцца з творчасцю вядомага кампазітара і піяніста Тэмпэя Накамуры.

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15044

# «Маленькі прынц»




Фота БелТА.

Лётчык, Ружа, Змей, Ліхтаршчык... Праз тры дзесяцігоддзі пасля сусветнай балетнай прэм'еры славутай філасофскай казкі Антуана дэ Сэнт-Экзюперы знакамітае адажыа загучала і на беларускай сцэне — Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета прадставіў спектакль «Маленькі прынц».

Чытайце на стар. 13 ▶

## Тэма нумара

# Колас. Назаўжды

**Літаратурнае свята «Каласавіны», якое традыцыйна праходзіць у дзень нараджэння Песняра, сёлета адзначыла 30-годдзе.**

Мноства кветак, салодкіх падарункаў, неверагодныя адкрыцці і прызнанні, фотаздымкі на памяць, усмешкі і шчырыя вітанні сяброў. Думаецца, так прынята адзначаць дні нараджэння. І менавіта так вось ужо трыццаць гадоў у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа — шырокім колам сваякоў, сяброў, навукоўцаў — святкуюцца народзіны аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры. Хай яго даўно няма разам з намі, але дух Коласа прысутнічае ў яго доме, чуецца ў творах. Амаль містычнае супадзенне: кожны год у дзень правядзення «Каласавін» стаіць добрае надвор'е, спыняецца дождж, выглядвае сонейка, а напярэдадні свята адбываюцца проста неверагодныя рэчы: справы, якія цягнуліся доўгі час, вырашаюцца ўмомант, у музей прыносяць новыя прадметы, знаходзяцца рукапісы і аўтографы паэта, робяцца адкрыцці і знаходкі. Здаецца, сам творца апякуецца святам, каб яго гасцям было ўтульна, цікава і радасна.



1925 г.

Чытайце на стар. 7, 9, 15 ▶

*Супольнасць*

# Магамед Ахмедаў:
# «Мне падабаецца ваш народ і краіна»

**Старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Дагестан Магамед Ахмедаў вядомы як паэт, перакладчык, публіцыст, літаратурны крытык. З-пад пяра народнага паэта Дагестана, які піша па-аварску і па-руску, выйшаў не адзін дзясятак кніг, а першая — «Начныя пісьмы» — была выдадзеная ў далёкім 1979 годзе на аварскай мове. Пра сучасны літаратурны працэс, чытацкія густы і пісьменніцкую творчасць пацікавіўся ў творцы карэспандэнт «ЛіМа».**

— Нарадзіўся я ў самым сэрцы дагестанскіх гор — у сяле Ганада Гунібскага раёна. Бацькі — простыя калгаснікі. Скончыўшы Ганадзінскую сярэднюю школу, паступіў у Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Праўда, для паступлення быў патрэбны двухгадовы працоўны стаж або служба ў арміі. Але мой будучы выкладчык, кіраўнік паэтычнага семінара, выбітны літаратурны крытык Аляксандр Міхайлаў упарта настаяў, каб мяне прынялі.

А ў 1979 годзе я скончыў Літінстытут з адзнакай. Давялося працаваць у кніжным выдавецтве, у літаратурных часопісах, рэгіянальнай газеце «Праведная мысль», аргсакратаром Праўлення Саюза пісьменнікаў Дагестана, кіраўніком секцыі аварскіх пісьменнікаў… Са студзеня 2004-га — старшыня Праўлення Саюза пісьменнікаў Дагестана.

**— Магамед Ахмедавіч, калі і як вы захапіліся чытаннем?**

— Мой бацька быў чабан. Аднойчы летам, выправіўшыся ў суседні аул, папрасіў мяне, шасцікласніка, пасцерагчы атару. І я пайшоў, прыхапіўшы з сабою «Вайну і мір» Льва Талстога. Ляжу ў цені, чытаю… Раптам, ужо на заходзе сонца, спахапіўся — атары няма! У рэшце рэшт сяк-так сабраў бараноў у загон. «Добра, што хоць кнігу табе можна даверыць», — сказаў бацька, калі вярнуўся…

А самая першая кніга, якую я прачытаў яшчэ ў падрыхтоўчым класе, — казкі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. На мой погляд, кніга — гэта лепшае, што прыдумала чалавецтва.

**— Ці ёсць у вас любімыя творы, аўтары?**

— Так. Пераважна — руская класіка: Пушкін, Лермантаў, Блок. А яшчэ — сучасныя паэты: Мікалай Рубцоў, Юрый Кузняцоў. Сярод дагестанскіх класікаў, якія літаральна прапускалі праз сябе, праз душу ўвесь боль і пакуты роднага народа, — Амарла Батырай, Махмуд з Кахабрасо, аўтар геніяльнай паэмы «Марыям», духоўны паэт Алі-Гаджы з Інхо, сасланы ў Сібір кумыкскі паэт Ірчы Казак… Лірыка Дагестана ўвогуле выхаваная на мужнасці ды любові да Радзімы. Таму карані нашай паэзіі сыходзяць глыбока ў народ, грунтуюцца на горскім эпасе, фальклоры. Цяпер збіраемся выдаваць 21-томны збор твораў дагестанскага фальклору.

**— Што ўкладваеце ў паняцце «сучасны пісьменнік»?**

— Гэта той, хто закліка    ны ствараць. Наш час непастаянны, пераменлівы, дынамічны: мяняюцца і людзі, і краіна. Нам патрэбная перамога — маральнасці, грамадзянскасці, патрыятызму, народнага адзінства.



Перш за ўсё пісьменнік павінен шанаваць родную мову, бо без яе няма народа. Лічу, што мову, якая хварэе, здольны вылечыць толькі паэт.

Увогуле, захаванне мовы, Радзімы, народа — галоўная для мяне тэма. Сёлета выйшаў шэраг маіх кніг на розных мовах: на татарскай — у Казані, на якуцкай — у Якуцку, на беларускай — у Мінску, на кабардзінскай — у Нальчыку, на чувашскай — у Чабаксарах. Цяпер працую над цыклам балад «Горскія аповесці».

**— На якія яшчэ тэмы пішаце?**

— У творчасці звяртаюся да вобраза маці, жанчыны ўвогуле. Пішу пра каханне. Паэт, лічу, павінен быць прапаведнікам ідэй дабра і дружбы.

**— А чаго, на вашую думку, бракуе сучаснай літаратуры?**

— Героя, эпапеі сучаснага жыцця. Героі ж патрэбны такія, як пушкінскі Анегін, лермантаўскі Пячорын, тургенеўскі Рудзін, шолахаўскі Мелехаў. У літаратурным працэсе апошніх дваццаці пяці гадоў гэтага не сустрэнеш. Ды і школьная праграма змянілася: сёння не вывучаюць «Як гартавалася сталь» і «Аповесць пра сапраўднага чалавека».

**— Калі вы пазнаёміліся з беларускай літаратурай?**

— Пры паступленні ў Літінстытут, падчас сумоўя, у мяне спыталіся пра любімых паэтаў. Назваў Расула Гамзатава, балкарскага лірыка Кайсына Куліева і… Петруся Броўку, творы якога чытаў у часопісе «Огонёк» яшчэ ў школьныя гады! Сёння знаёмы з творчасцю Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Васіля Быкава, тым больш што ў Літінстытуце ў нас быў абавязковы спецкурс «Беларуская літаратура». Дарэчы, творамі Быкава вельмі ўражаны. Сярод прачытанага — «Сотнікаў», «Альпійская балада», «Знак бяды» ў аўтарскім перакладзе на рускую.

У Беларусі не ўпершыню. Мне вельмі падабаецца ваш народ і краіна. Гэтым разам прэзентуем кнігу маіх вершаў «Горная ліра» ў перакладах старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова. Прэзентацыя выдання ўжо адбылася ў мяне на радзіме.

**— Як развіваюцца беларуска-дагестанскія літаратурныя стасункі?**

— Мы падпісалі дамову аб супрацоўніцтве з Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Распрацоўваем праграму мерапрыемстваў, плануем запрасіць у Дагестан дэлегацыю беларускіх аўтараў.

**Яна ЯВІЧ**

*Дайджэст*

• Завяршыў працу 67-мы кніжны кірмаш у Франкфурце-на-Майне. Сёлета яго наведвальнасць у параўнанні з мінулым годам узрасла — кірмаш зацікавіў каля 275 тысяч чалавек. Непасрэдны ўдзел узялі перакладчыкі, выдаўцы, прадаўцы, ілюстратары, прадстаўнікі бібліятэк, літаратурныя агенты — усяго каля 140 тысяч спецыялістаў у розных кніжных сферах. Былі прадстаўленыя 7 тысяч экспанатаў больш як са 100 краін. Прайшлі 4 тысячы мерапрыемстваў рознай скіраванасці, а ганаровым госцем сёлета стала Інданэзія — «у асобе» адразу 70 аўтараў. Беларускую літаратуру прэзентаваў стэнд *BooksfromBelarus*.

• Букераўскую прэмію ў памеры 50 тысяч англійскіх фунтаў атрымаў ямайскі пісьменнік Марлон Джэймс. Поспех яму прынесла кніга «Кароткая гісторыя сямі забойстваў». Такое рашэнне журы стала нечаканым для ўсіх, бо кніга атрымала вельмі неадназначныя ацэнкі ў чытацкай аўдыторыі і ў асяродку крытыкаў ды літаратуразнаўцаў. Сярод фіналістаў былі таксама пісьменнікі з ЗША, Англіі і Нігерыі.

• Акцёр Гэры Олдман, вядомы як выканаўца ролі Дракулы, плануе напісаць кнігу пра вампіраў. Суаўтарам яго выступіць кінапрадзюсар Дуглас Урбанскі. Кніга распавядзе пра тое, як жывецца вампірам і якую ролю ў іх жыцці адыгрывае каханне. Назву праект мае неардынарную — «Крывавыя вершнікі». Ідэя стварыць такую кнігу з'явілася ў акцёра ў 2009 годзе, аднак выдаўцы адзін за другім адмаўляліся брацца за яе ажыццяўленне. Урэшце згоду дало выдавецтва «Сайман і Шустар». У продаж кніга мусіць выйсці ўвесну наступнага года. Цікава, што «Крывавыя вершнікі» стануцца толькі пачаткам серыі, галоўны герой якой — Магнус — пакутуе праз вампірскі праклён.

• Навіны кініндустрыі: прадзюсарскі цэнтр «Среда» Аляксандра Цэкалы распачаў працу над серыялам, галоўным героем якога стане Мікалай Гоголь. Сюжэтная лінія збольшага закране падзеі да стварэння «Вечароў на хутары блізу Дзіканькі». Напачатку мы пабачым Гоголя-чыноўніка, які служыць у Пецярбургу. У гэты час ён заўзята змагаецца з творчым крызісам і знішчае ўвесь тыраж першай выдадзенай ім кнігі — зборніка вершаў «Ганц Кюхельгартэн». У ролі генія літаратуры выступіць Аляксандр Пятроў. Здымкі пройдуць у Санкт-Пецярбургу, а таксама ў адной з вёсак Пскоўскай вобласці. Пілотную серыю гледачы могуць чакаць ужо налета. Калі аўдыторыя прыме яе прыхільна, працяг серыяла не прымусіць сябе чакаць.

*Імпрэзы*

## Адгукнуцца на вершы

**Творчая сустрэча з пісьменніцай, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў Ірынай Тулупавай «Чую і адгукаюся…», прымеркаваная да яе юбілею, адбылася ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы.**

На пачатку імпрэзы прагучаў аўдыязапіс песні «Прэм'ера», створанай кампазітарам Алегам Елісеенкавым на верш Ірыны Тулупавай, прысвечаны Якубу Коласу, з цыкла «Па літаратурных сцяжынах Мінска».

І. Тулупава — лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», аўтар кнігі прозы «Шчасце на парозе тваім» і паэтычнага зборніка «Чую і адгукаюся…». Да віншаванняў далучыўся старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў, які ўручыў Ірыне Зігмундаўне медаль «За вялікі ўклад у літаратуру».

Падчас імпрэзы гучалі вершы Ірыны Тулупавай у аўтарскім выкананні. Ірына Зігмундаўна распавяла пра сваю паэтычную ды празаічную творчасць, пра паездку ў складзе пісьменніцкай дэлегацыі ў турэцкі горад Стамбул і міжнародную гуманітарную арганізацыю «Дыялог Еўразія», прадстаўніцтва якой ёсць у нашай краіне.

Добрае слова пра творцу сказалі сябры СПБ пісьменніца Тамара Бунта, празаік і літаратуразнаўца Уладзімір Навумовіч, паэт і публіцыст Зіновій Прыгодзіч — галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня».

Напрыканцы выпускніца філалагічнага факультэта БДУ Кудрэт Кырмач, сябар арганізацыі «Дыялог Еўразія», пазнаёміла прысутных з мастацтвам эбру — малявання на вадзе.

**Яна ЯВІЧ**

## Лірай спрадзенае

**У Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна прайшоў творчы вечар пісьменніцы Зінаіды Дудзюк. На сустрэчу з паэтэсай, празаікам, драматургам, перакладчыцай завіталі яе калегі, сябры, прыхільнікі таленту і ўвогуле аматары літаратуры.**

У творчым арсенале пісьменніцы каля 40 кніг: паэтычныя зборнікі, кнігі прозы, драматычныя творы, дзіцячыя п'есы і казкі. Апошнія неаднаразова ставіліся на айчынным тэатральнай сцэне. Творы Зінаіды Іосіфаўны адзначаліся прэміямі і дыпломамі. Сёлета, у юбілейны для пісьменніцы год, выйшла ў свет яшчэ некалькі яе кніг. Падчас сустрэчы госці пазнаёміліся з «Неверагоднымі прыгодамі Бусліка і яго сяброў» ды кнігай славянскай міфалогіі «Стварэнне». Прывабіла гасцей падрыхтаваная супрацоўнікамі бібліятэкі выстаўка «Шляхі лёсу і творчасці». Прэзентацыя новага зборніка лірыкі паэтэсы «Прадзіва» стала галоўнай падзеяй імпрэзы. У кнізе — як асобныя вершы і паэмы з раней выдадзеных зборнікаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Паддавыя кахання» (2003), «Дарунак» (2010), так і новыя, напісаныя за апошнія гады. Ёсць у зборніку і фотаздымкі з асабістага архіва пісьменніцы. Падчас прэзентацыі госці пачулі вершы ў аўтарскім выкананні, а таксама песні і рамансы на словы пісьменніцы. Зінаіда Дудзюк распавяла пра сваё творчае жыццё і нават прапанавала публіцы разам скласці верш.

**Наталля ШЛЯЖКА**

*Стасункі*

# Тураўскі рарытэт — у Латвіі

**Напрыканцы Дзён культуры Беларусі ў Латвіі ў Акадэмічнай бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта адбылася прэзентацыя факсімільнага выдання Тураўскага Евангелля XI стагоддзя — самага старажытнага кніжнага помніка нашай краіны і аднаго з найбольш даўніх ва Усходняй Еўропе.**




Перавыданнем Тураўскага Евангелля з захаваннем усіх асаблівасцей арыгінала ў суправаджэнні гістарычных і кнігазнаўчых даследаванняў займалася Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Арыгінал рукапісу захоўваецца ў Бібліятэцы імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук.

— Для нас вялікі гонар прадстаўляць у Латвіі беларускую культуру праз прэзентацыю нацыянальнай святыні, самага старажытнага сведчання развіцця пісьменства на нашых землях, — распавёў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Алесь Суша. — Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Беларускі інфармацыйны цэнтр, Акадэмічная бібліятэка Латвійскага ўніверсітэта і наша кніжніца.

Фрагмент кароткага зборніка евангельскіх чытанняў, які вядомы пад назвай «Тураўскае Евангелле», адшукаў у 1865 годзе ў Тураве, у скрыні з-пад вугалю, настаўнік Мікалай Сакалоў і прывёз у аддзел рукапісаў Віленскай публічнай бібліятэкі.

У 1915-м Евангелле разам з іншымі каштоўнасцямі паступіла на захоўванне ў маскоўскую Румянцаўскую бібліятэку. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны рарытэт перадалі ў аддзел рукапісаў бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук.

Ад Евангелля захавалася 10 аркушаў. Новая публікацыя знаёміць з вытокамі кніжнай культуры ў Беларусі, дае ўяўленне пра духоўнае і матэрыяльнае жыццё праваслаўных жыхароў, адлюстроўвае шматканфесійны, культурны, этнічны і сацыяльны зрэз грамадства.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Праекты*

# Шматгалоссе духоўнае

Гала-канцэртам «Хваліце імя Госпадне!» у сталічным Палацы культуры прафсаюзаў завяршыўся духоўна-асветніцкі праект «Дні праваслаўнай культуры», ініцыяваны Прыходам храма ў імя святой праведнай Сафіі Слуцкай у г. Мінску Мінскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы і Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Аўтар і дырэктар праекта — сакратар храма, член Прыходскага савета Прыхода храма ў гонар святой праведнай Сафіі Слуцкай Тамара Лявішка.

У межах праекта, сярод прыярытэтных задач якога — далучэнне сацыяльных інстытутаў і дзеячаў навукі і культуры да духоўна-асветніцкай дзейнасці, адбыліся аўтарскі вечар старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова, канцэрты духоўнай музыкі і аўтарскай паэзіі ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, у Нацыянальным мастацкім музеі, фотавыстаўка праваслаўных фатографаў у кінатэатры «Кастрычнік» ды інш.

Падчас гала-канцэрта з прывітальным словам і блаславеннем да ўдзельнікаў і гледачоў звярнуўся епіскап Барысаўскі і Мар'інагорскі Веніямін. Канцэрт калакольнага звону прадставілі ўдзельнікі і выпускнікі Мінскай школы званароў. Гледачы пачулі выступленні кліросных хароў, моладзевага аматарскага хору «*Visson*», камернага хору «Класіка»… Гучалі вершы айчынных паэтэс, членаў СПБ — галоўнага рэдактара газеты «Воскресение» Алены Міхаленка, Лізаветы Палеес і Вольгі Шпакевіч, айчынных спевакоў Уладзіміра Ухцінскага, Іны Афанасьевай, Ігара Задарожнага.

**Яна ЯВІЧ**

*Прэзентацыі*

# Мастак. Паэт. Асоба

**На мінулым тыдні ў галерэі «Ракурс» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё мемарыяльнай выстаўкі жывапісу і прэзентацыя зборнікаў санетаў мастака, дзеяча культуры, мастацтвазнаўца Фёдара Ястраба «Абяцанне сноў» і «Вясёлкавы след».**

Фёдар Ястраб — мастак еўрапейскага ўзроўню, аўтар альбомаў і кніг. У свой час — куратар шматлікіх творчых праектаў, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў…

Цікава, што ён пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну не толькі як мастак, але і як таленавіты паэт: амаль тысяча санетаў! Пры жыцці Фёдар Ястраб арганічна сумяшчаў педагагічную, пра-дзюсарскую і творчую дзейнасць.

Сябры і калегі творцы дзяліліся ўспамінамі пра яго жыццё, талент, мастацкі почырк. Шмат гасцей сабралася ў выставачнай зале. З прывітальным словам выступіў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, які адзначыў, што гэтая сустрэча — магчымасць яшчэ раз ушанаваць памяць не толькі вялікага мастака, але і вялікага чалавека.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз мастакоў» Рыгор Сітніца, дырэктар Радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч...

Шмат добрых слоў у гэты вечар было сказана пра Фёдара Ястраба. Выступоўцы ўспаміналі асаблівыя падзеі і сітуацыі, звязаныя з творцам, аднадушна падкрэслівалі яго бясспрэчны талент. Выступілі студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі — спявалі лірычныя санеты Фёдара Ястраба пад акампанемент раяля. У межах прэзентацыі была прадстаўлена і дакументальная выстаўка, прысвечаная асобе мастака.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Спецыфічны фотаперсанаж!

**У межах месяца фатаграфіі ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва працуе выстаўка «Фатаграфіі Станіслава Ігнацыя Віткевіча "Віткацы"».**

Станіслаў Ігнацый Віткевіч (Віткацы) — адзін з самых вядомых польскіх мастакоў і пісьменнікаў першай паловы XX стагоддзя, нарадзіўся ў 1885 годзе. Яго дзяцінства прайшло ў коле артыстаў і пісьменнікаў, што і паўплывала на далейшы лёс творцы. Тэксты Станіслава Ігнацыя перакладзены больш як на трыццаць моў у Еўропе, ЗША, Паўднёвай Амерыцы і Японіі. Яго п'есы ставяць на замежных тэатральных сцэнах. Віткацы ніколі не лічыў сябе фатографам, але фатаграфаваў усё сваё жыццё.

Выстаўка «Фатаграфіі Станіслава Ігнацыя Віткевіча "Віткацы"» у спецыфічным настроі. З пятнаццаці чорна-белых партрэтаў глядзяць стомленыя, задуменныя і здзіўленыя вочы, таямнічая нерухомасць якіх зачароўвае. Амаль на ўсіх партрэтах прадстаўлены мужчыны — жанчыну можна ўбачыць толькі на адной фатаграфіі разам са Станіславам Віткевічам. З назвы выстаўкі вынікае, што аўтар прадстаўленых здымкаў — Станіслаў Ігнацый, але насамрэч аўтары партрэтаў розныя. Толькі некаторыя з прапанаваных, у асноўным аўтапартрэты, рабіў сам творца. На выстаўцы Станіслаў Віткевіч выступае ў ролі персанажа альбо галоўнага героя фатаграфіі.

Экспазіцыя дапамагае гледачу прасачыць развіццё пісьменніка-мастака як асобы. На выстаўцы экспануюцца самыя лепшыя з захаваных фатаграфій, зробленыя ў перыяд стварэння ім сваіх асноўных літаратурных, філасофскіх, драматургічных і жывапісных твораў.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**10 лістапада** — *на літаратурнае свята «Для дзяцей кнігі пішуцца сэрцам» з удзелам пісьменніцы Алены Міхаленка. Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**10 лістапада** — *на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**11 лістапада** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42; кіраўнік гасцёўні — паэтэса Іна Фралова) на творчую сустрэчу з празаікам Міхаілам Галдзянковым. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**12 лістапада** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Кіраўнік студыі — пісьменніца Наталія Касцючэнка. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**12 лістапада** — *на XIX Мінскія паэтычныя чытанні. Мерапрыемства адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**13 лістапада** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Кіраўнік — пісьменнік Міхась Пазнякоў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 лістапада** — *на творчую сустрэчу паэтаў Студыі ваенных пісьменнікаў са студэнтамі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта (пр. Незалежнасці, 65). Пачатак а 11-й гадзіне.*



## Мікола ВІЧ

***

*Пачынаецца ўсё з пясочніцы*
*І заканчваецца ўсё пяском.*
*Пацалую зямлю-сурочыцу,*
*Вып'ю неба зрання нагбом.*

*Нарачоная ты ці наложніца,*
*Чалавеча ты або гном…*
*Пачынаецца ўсё з пясочніцы,*
*А заканчваецца пяском.*

***

*Паэзію трэба слухаць поўсцю.*
*Прымаць або не прымаць зусім.*
*Інакш — яна адпомсціць.*
*Табе і вакол усім.*

*Паэзію трэ вачыма слухаць —*
*І да вачэй дастаць:*
*Калі там зусім будзе суха,*
*Тады можна выкідаць.*

*Паэзіяй трэба дыхаць —*
*Як дыхае рыбай вада.*
*А не як вадой дыхае рыба,*
*А не як зямлёй — жуда.*

*Паэзію трэба выпіць*
*У самы апошні міг.*
*А потым… з журбою выліць*
*На свой жа апошні штрых.*

### Яе

*Да мяне падышла жанчына:*
*— Ты за што паэзію любіш?*
*— А за тое ж, што ты мужчыну*
*Да світання свайго галубіш.*
*Да мяне падышоў мужчына:*
*— Ты за што паэзію любіш?*
*— А за тое ж, што ты жанчыну*
*Да світання свайго галубіш.*

*Да сябе падышоў я сам:*
*— Ты за што паэзію любіш?*
*Я падумаў. Адкрыў сезам.*
*І адчайна пацалаваў у губы.*

*Яе.*

### Развітанне

*Я азірнуўся, а мяне няма.*
*Ні голасу, ні погляду, ні жэсту,*
*Ні тайны, ні стрыптызу задарма,*
*Ні гвалту, ні кахання, ні інцэсту…*

*— Усё было, — казала пустата.*
*— Ты недзе ёсць, — адбрэхвалася рэха…*
*Як сэрца на асфальце, у кустах*
*Маўклівай знічкай гасла цыгарэта…*

***

*У паэтаў нараджаюцца дзяўчынкі.*
*Апраўданне іх салодкага жыцця,*
*Іх бязвер'я, іх сляпых учынкаў,*
*Іх кахання-самазабыцця.*

*Ад паэтаў нараджаюцца дзяўчынкі…*
*Доўжыцца жыццёвая ралля…*
*Песяцца таемныя радзімкі…*
*Ну а хлопчыкі?.. А хлопчыкі — пасля.*

***

*Твая душа парваная на вершы...*
*Не златаеш, не склеіш, не збярэш,*
*З душэўнай хрэстаматыяй не зверыш,*
*Не выльеш сябру, жонцы не нальеш.*

*Так і жывеш з душою разарванай,*
*Ужо не чалавек, яшчэ паэт...*
*Скрозь вершы, бы праз колатыя раны,*
*Знаёмы вызірае сілуэт.*

***

*Пацук у сэрцы ціха сыр грызе.*
*А вінаград ласуецца крывёю…*
*Хтось воўчую ў сябе пералле,*
*А хтосьці скажа змыць сябе з зямлёю.*

*Вось тут пытанне: як з крывёю быць?*
*Нацешаны і вінаград, і воўк.*
*І толькі чутна, як сярод журбы*
*Зямля ледзь шэпча, плача пра любоў…*

***

*Гэта мой апошні камень я трымаю.*
*Калі хто не знае, я — Сізіф.*
*Нават назвы той гары не знаю,*
*Куды валаку я свой relieve.*

*Але валаку, сціраю ногі.*
*Уздымуся — хтось пакліча ўніз.*
*Выйду да падножжа з асцярогай.*
*Гляну на вяршыню: Rest in peace.*

***

*Я валяю неба з воўчай поўсці.*
*Воўк не прыйдзе — я яго забіў.*
*Толькі стане на маім пагосце.*
*Толькі скажа: «Ты мяне любіў…»*

*І пачне валяць з чыёйсьці косці*
*Неба сакавітае… З крыві…*
*І тады з магіл паўстане хтосьці:*
*«Я стаміўся ўжо… А ты – жыві».*

***

*Прысеў павук на самай павуціне*
*Маёй далоні…*
*Колькі мне гадоў?*
*Не адказаў.*
*А рабаціннне*
*Маёй далоняй стала моўчкі зноў.*

***

*Адчыняюцца ўночы сны —*
*І выходзяць стуль голыя людзі.*
*Выпраўляюцца ад маны —*
*Выпрамляюцца кволыя грудзі.*

*Піянеры ідуць, жанкі й сыны.*
*Хтосьці пойдзе калісь за імі…*
*Яны пойдуць услед у сны.*
*Яны стануць калісь такімі ж.*

***

*Земляры зямлю сваю цалуюць*
*І таму навечна вельмі рады.*
*Калі ты зямлю сваю зямлюеш,*
*Ты пракляты, вечны ты араты.*

*Землякі зямлю сваю шануюць.*
*І яны таксама вельмі рады*
*Бачыць земляроў, што шпацыруюць*
*Без зямлі і без зямной спагады…*

***

*Лёс у лёсе, а смерць у смерці.*
*Недзе там ходзіць вечны Ён.*
*Не парваць, не стрымаць, не здзерці…*
*Вось праклён. Вось ён —*
*наш беларускі лён…*

*Хтось жывы стане вечным ценем,*
*Хтосьці мёртвы паўстане ў льне.*
*І калі ён свой доўг не верне,*
*Хтосьці з родных — дый праклянe.*

***

*Папяровае маё сэрца,*
*Ты адкуль, ты адкуль, ты адкуль?*
*Ты баялася так памерці*
*Не ад куль, не ад куль, не ад куль…*

*Снег — на сэрцы. А сэрца — камень.*
*Дождж — на сэрцы. А сэрца — гляк…*
*Учарэпілася каранямі…*
*І трымціць зямля.*



## Людміла КРУГЛІК

### Малітва маці

*Спачываюць гукі, цьмяна ў хаце,*
*Лапы звесіў з лавы шэры кот.*
*У куце малітву шэпча маці,*
*Каб жылося дзецям без турбот.*

*Каб не ведалі ніколі стомы*
*І здароўя пасылаў ім Бог,*
*Каб заўжды вярталіся дадому*
*І з вялікіх, і з цяжкіх дарог.*

*Лашчыць позіркам ікону маці*
*З думкай: «Дзе дачушка? Дзе сынок?»*
*Каб сумленне з іх ніхто не страціў,*
*У жыцці зрабіўшы першы крок.*

*У куце малітву шэпча маці,*
*Каб жылося дзецям без турбот.*
*Цішыня наўкол і змрочна ў хаце,*
*Толькі ў сне вуркоча шэры кот.*

### Надыход ночы

*Схавала сонца за пагорак*
*Апошні залаты прамень.*
*Кладзецца ціхі надвячорак,*
*Спякоту адганяе ў цень.*

*Сціхаюць спраў руплівых гукі,*
*Крадзецца змрок, як шэры кот,*
*І ноч да долу цягне рукі,*
*Адзначыўшы свой надыход.*

*Адчыніць куфар зноў багаты —*
*І месяц зазірне праз плот,*
*Рассыпле жоўтыя зярняты,*
*Якіх і не злічыць за год.*

*Замкнула сонца ў хаце дзверы,*
*Схаваўшы сонечны прамень.*
*І ноч пануе ў сонным скверы —*
*Накрыла клапатлівы дзень.*

### Памяць

*Ад былых незваротных гадоў*
*За падзеямі нам не схавацца.*
*Усплываюць яны з памяці зноў,*
*Як малітва святому распяццю.*

*Толькі летась па сцежцы пайшоў,*
*Ды спяшаецца думкай дарога.*
*Вось і снег ужо скроні знайшоў —*
*Не стаміліся хуткія ногі.*

*Немагчыма нам жыць і любіць*
*Без падзей, што схаваны ў мінулым.*
*Мы не зможам аднойчы згубіць*
*Родны кут наш і голас матулі,*



Фота Кастуся Дробава.

*Што калыску люляла ўначы*
*І спявала да сну калыханку,*
*Рэхам памяці песня гучыць,*
*Лашчыць сэрца, як вечар заранка.*

*І з глыбіняў крынічнай вады,*
*Са шляхоў, дзе дубы векавыя,*
*Паўстаюць зноў былыя гады,*
*Па слядах крочаць, нібы жывыя.*

*І квітнеюць увесну сады,*
*Новы дзень пракладае дарогі…*
*Ды вяртаецца памяць туды,*
*Дзе жыцця камяні і парогі.*

### Тапаля

*Калісьці пасадзілі ў полі,*
*Пачаўшы тым цудоўны парк,*
*Зусім маленькую таполю,*
*Каб людзі помнілі ў вяках*

*Князёў магутных Радзівілаў,*
*Іх карані — вяльможны род.*
*Расла тапаля і карміла*
*Яе зямля ад году ў год.*

*Туды мы бегалі малымі*
*І вымяралі шыр і рост…*
*Гады па свеце неслі міма*
*Сцяжынак, дзе пачаўся лёс.*

*Вярнулася — і вось я дома,*
*Ізноў іду наведаць парк.*
*І да тапалі шлях знаёмы…*
*Яе няма. Бывае так —*

*Скрадзе былую асалоду*
*Жыццё, адлічваючы дні.*
*Ды застаецца памяць роду*
*І дзеці — нашы карані.*

*На тым жа месцы зноў на волю*
*Праб'ецца парастак малы —*
*Прадоўжыць новая тапаля*
*Сляды былога на зямлі.*

# Астролаг

Расціслаў БЕНЗЯРУК



*Уладзіміру Бяброву-меншаму*

## 1

Гарачым выдалася тое лета. Сонца няшчадна паліла зямлю і дзень, і два, і пяць, і месяц. Рана забувянелі ячмяні, аўсы, жыты, так і не наліўшы каласы буйным зернем.

Дарма час ад часу ў маёнтку пана Рак-Сялецкага і гаспадар, і дваровыя пазіралі на неба: распаленае, як горан у кузні, яно ніяк не прадказвала навальніцы.

Багданка нарадзіўся і жыў у чвартаку — дашчатым нізкім бараку на чатыры сям'і непадалёку ад панскіх пакояў. Бацька яго, Пракоп, як і астатнія тры мужчыны, працаваў з коньмі: араў, вазіў…

Хлопчыку ішоў чатырнаццаты год. Ён быў не падобны да сваіх аднагодкаў: задуменны, як бы сам па сабе, шмат часу назіраў за кветкамі, раслінамі, звярамі і птушкамі. Як і яго дзікаватая (так лічылі, зрэшты, усе) бабуля-набожчыца. Яна многаму навучыла ўнука.

У тую раніцу куры вялі сябе не так, як раней: купаліся ў пяску, скубліся ў пер'і. Багданка заўважыў, што ластаўкі апусціліся нібыта ніжэй, а парачка буслоў высока-высока кружылася, няспешна махаючы крыламі. Таму, калі Маланння, Багданкава маці, стала ўздыхаць, што няма дажджу, хлопчык нечакана заявіў:

— Мама, дождж будзе заўтра пад вечар або ноччу!

На радасцях Маланння разнесла гэтую вестку. Дайшла яна і да аканома Папярэкі. Той палічыў за абавязак перадаць яе пану.

Рак-Сялецкі якраз абедаў. Спачатку ён залаваў на аканома, што адрывае ад яды, але, пачуўшы ад Папярэкі, што заўтра к вечару будзе дождж, гнеў змяніў на міласць.

— Што ж, пабачым! — усміхнуўся ён.

Заўтра дзень пачаўся гэтаксама, як і папярэдні: неба было бязвоблачнае, а сонца — пякучае. Але к абеду на захадзе забувянела шэрая, як лапінка, хмарка, з'явіўся вецер. Гром, вырваўшыся на волю, не ракатаў, а бязжаласна біў, палохаючы ўсё жывое.

У грозную, навальнічную ноч пан Рак-Сялецкі доўга не спаў. На стале гарэлі свечкі. Пазіраючы то ў адно, то ў другое акно, дзе штохвіліны ўспыхвалі маланкі, ён думаў. А раніцай, як навальніца сціхлася, а дробны дождж яшчэ ішоў, паклікаў да сябе аканома.

Калі той пераступіў парог і пакланіўся, Рак-Сялецкі, не адрываючыся ад газеты, запытаў:

— Пане Папярэка, ты пазаўчора ведаў, што будзе дождж?

— Не, вяльможны пане.

— А Пракопаў хлопец ведаў, — і зноў уткнуў нос у газету, пры гэтым разважаючы: — Можа быць… Можа быць, варта вучыць хама, калі ён разумней за пана…

Не, Рак-Сялецкі зусім не думаў ашчасліўіць здольнага хлапчука. У яго на гэты конт былі свае развагі: мець пры двары астролага — значыла здзівіць суседзяў. Гэта ж не папугай, які ўмее гаварыць, як у пана Канапацкага, і не кобра, прывезеная з-за акіяна, як у пана Паракапыцкага. Гэта чалавек, які прадказвае надвор'е на заўтра, на месяц наперад…

Калі зіма ўступіла ў свае правы, Пракоп на санях павёз свайго сына з панскім пісьмом у Варшаву. Вярнуўся хлопец дамоў, толькі калі споўнілася яму сямнаццаць.

За чатыры час Рак-Сялецкі паспеў не на жарт пасварыцца з суседзямі. Больш у маёнтак не заязджалі ні Канапацкі, ні Паракапыцкі. Паказваць незвычайнага хлапца не было каму, і пра яго быццам забылі…

## 2

Прайшло два гады. Раптам занепагодзіла, ды так, што другі дзень, не перастаючы, ліў дождж. У маёнтку — перапалох: новы патоп!

Рак-Сялецкі ўспомніў пра хлопца, якога вучылі на астролага і які цяпер працаваў на канюшні, і загадаў прывесці ў пакоі. Так Багдан з'явіўся перад панам: у чорнай сарочцы, босы, з закасанымі да каленаў нагавіцамі. Пакланіўся. Рак-Сялецкі акінуў пагдядам высокага, стройнага юнака і спытаў па-польску:

— Твое прозвіско ест Богдан?

— Так, пане.

— Значыць, ты чалавек, Богам дадзены? — усміхнуўся Рак-Сялецкі.

Багдан адчуў сябе няўтульна: не ведаў, куды гне пан. А той гаварыў далей:

— Што, Багдане, мы дажылі да новага патопу? Зноў дождж будзе ліць сорак дзён і начэй?..

— Мне здаецца, вяльможны пане, што дождж перастане сёння пад вечар, а можа — заўтра, — абдумваючы кожнае слова, адказаў Багдан.

— О! — здзівіўся Рак-Сялецкі. — Тады, хлапчуком, ты казаў болей упэўнена, а зараз — бытта сумняваешся. У чым справа?

— Бо ведаю болей, пане…

— Разумна! — ухваліў Рак-Сялецкі. — Што трэба, каб у сваіх прадказаннях ты быў больш упэўнены?

Захваляваўся, засаромеўся Багдан, нясмела пераступіў з нагі на нагу.

— Ты не бойся мяне! — супакоіў Рак-Сялецкі. — Кажы, што трэба!

— Трэба, вяльможны пане, каб была хаця б падзорная труба. Каб можна было глядзець на зоркі. Зоркі падкажуць…

— …І мантыя з залатымі зоркамі. Каб усе ведалі, што ты — астролаг. Жыць будзеш не ў чвартаку, а ў пакоях! — распарадзіўся Рак-Сялецкі.

Такога павароту Багдан не чакаў.

Пан стрымаў сваё слова: астролагу вылучылі невялікі пакойчык у панскіх харомах, справілі доўгую чорную мантыю з залатымі зоркамі. Як на начным небе.

Жыў ён не так, як усе дваровыя. Кожную ноч доўга сачыў за зоркамі. Часам яго звалі да пана, і астролаг дакладваў, якое заўтра чакаць надвор'е, калі лепей выбрацца ў дарогу і што пры гэтым апрануць.

Яму зайздросцілі: сам вяльможны пан трымае з ім раду, калі-нікалі, як пад настроем, адорвае грашыма. І Багдан не жаліўся на жыццё.

## 3

Фанабэрыстыя паны зноў памірыліся: сталі ездзіць адзін да аднаго, разам — на паляванне.

Гэтым разам у Рак-Сялецкага быў толькі Паракапыцкі. Была позняя восень. Сцюдзёна. Зранку выбліснула нияркае сонца. Кроплі ад учарашняга дажджу паблісквалі на пажоўклай траве. Зграя сабак разам з паганятымі кінулася падымаць зайцоў, каб паны маглі пастраляць.

Паляванне ўдалося: упалявалі-такі некалькі звяркоў. Не весяліўся, бадай што, адзін Багдан: ён не здагадваўся, чаму ўзялі яго з сабою, і ад таго на душы было неспакойна…

Паляванне завяршылі паблізу леснічоўкі. Зайгралі ў ражкі — збіралі ўсіх да будыніны на лясной паляне.

Побач з леснічоўкай гарэла вялізнае вогнішча, сыплючы ў неба залатымі іскрамі. Надвор'е, між тым, псавалася. Свінцова-шэрая, асенняя хмара схавала сонца, заімжэў назойлівы дожджык. Паны рушылі ў залу, астатнія — у бакавушку. На дварах засталіся толькі даглядатыя за агнём.

У прасторнай зале, якая магла ўмясціць не адзін дзясятак людзей, стаяў даўжэзны дубовы стол. На ім — розная ежа, піва. І чэлядзь не застанецца галоднай.

Паны разгаварыліся. Як звычайна, пра сваіх сабак, пра паляванні і пра надвор'е. Рак-Сялецкі зразумеў: пара пану Паракапыцкаму паказаць свой сюрпрыз. Ён жэстам падазваў кухара, які прыбіраў посуд на другім канцы стала, і загадаў:

— Пакліч астролага!

Кухар птушкаю пырхнуў з залы і аб'явіў волю Рак-Сялецкага. Багдан ад нечаканасці ледзь не здушыўся. Дажаваў, абцягнуў мантыю (ён быў абавязаны штодзень хадзіць у ёй) і зайшоў у пакой. Нізка пакланіўшыся панам, чакаў загаду.

— У нас з панам Паракапыцкім выйшла спрэчка, — не падымаючы вачэй, загаварыў Рак-Сялецкі. — Пан Казімік не верыць, што ў найбліжэйшыя дні надвор'е наладзіцца…

Астролаг ведаў, якое трэба чакаць надвор'е, і цяпер аказаўся ў цяжкім становішчы. Сапраўды, дажджы зарадзілі на цэлы тыдзень, не менш, а як скажаш пра гэта Рак-Сялецкаму?! Пан ніколі не мілуе тых, хто асмеліцца ўзяць пад сумненне правільнасць яговых слоў. А калі сказаць няпраўду, але дагадзіць яму? Можа, тады ён усё-такі не пакарае? І Багдан вымушаны быў сказаць:

— Вяльможныя паны, сапраўды, заўтра-паслязаўтра надвор'е палепшыцца, з'явіцца сонца, пацяплее.

— Вось бачыш! — узрадаваўся Рак-Сялецкі.

— А ты адкуль ведаеш? — усё яшчэ сумняваўся пан Казімік.

— Зоркі так падказваюць, — не мог ужо спыніцца і сказаць праўду Багдан.

— Ён кожную ноч, — радасна хваліўся Рак-Сялецкі, — зоркі вывучае ў абс… абс…

— У абсерваторыі, — ціха падказаў астролаг.

— Вось-вось, у абсерваторыі, — падхапіў Рак-Сялецкі. — Каб зараз не дождж, паехалі б паглядзець маю абсерваторыю. А так, пане Казімік, запрашаю да сябе ў нядзелю.

— Пане Браніслаў, вы збіраліся да мяне прыехаць, — напомніў Паракапыцкі.

— Але ж у вас, пане Казімік, няма абсерваторыі…

Паракапыцкі ўраз зніякавеў. Рак-Сялецкі напоўніў чаркі. Багдан пакланіўся і выйшаў.

Выпіўшы, пан Паракапыцкі вярнуўся зноў да размовы:

— Пане Браніслаў, прадай мне свайго астролага!

— Не магу, пане Казімік, мне ён самому пазарэз патрэбны! Выбіраюся я ў дарогу, скажам, у Варшаву — астролаг мне падказа, што апрануць, каб не горача і не холадна было…

— Але сёння ён памыліўся. Бачыш, дождж!

Па шыбінах сцякала вада.

— Няпраўда ваша, пане Казімік, — не пагадзіўся сусед. — Памятаеце, раніцай я перадаваў яго словы пра тое, што паганяем зайцоў да абеду, да дажджу?..

— І то праўда…

Пан Паракапыцкі не хаваў маркоты, што не можа купіць такога здольнага халопа.

Але гэтым разам паны не пасварыліся.

## 4

Надвор'е не мянялася: як узяліся дажджы, так і не перасталі. Багдан чакаў непрыемнасцей, але пан пакуль маўчаў.

У нядзелю Паракапыцкі не прыехаў. Праз дзень ці два Рак-Сялецкі аб'язджаў свае палі, калі неспадзявана сустрэў суседа. Дождж-імжа не перашкодзіў панам пакінуць карэты і абняцца. Пан Паракапыцкі нечакана сказаў:

— Ілжэц твой астролаг! Казаў: дзень-другі — і надвор'е наладзіцца. А дзе яно, тое надвор'е? Дажджы і дажджы. А я, пся крэў, хацеў яго яшчэ купіць! Ламанага граша ён не варты! І чаму яго ў Варшаве вучылі!..

Кожнае Казімікава слова, як нажом, рэзала па сэрцы Рак-Сялецкага. Пры апошніх, не развітаўшыся, ён ускочыў у карэту і загадаў гнаць коней дамоў.

Як віхор, уварваўся ён у пакоі. Чэлядзь прыціхла, бы мышы пад мятлою. Рак-Сялецкі загадаў знайсці астролага.

— Дзе тое надвор'е, што ты абяцаў?! — крычаў і брызгаў слінаю пан. — Чаму мяне перад Паракапыцкім зняславіў?! Чаму цябе вучылі ў Варшаве?..

Спалоханы астролаг прызнаўся, што зоркі і праўда прадказвалі зацяжныя дажджы, але ён не мог сказаць інакш, калі вяльможны пан хацеў пачуць пра добрае надвор'е.

Рак-Сялецкі яшчэ больш ускіпеў:

— Мне маніць?! Можаш каму хочаш, ды толькі не мне!.. Я ж цябе са свету зжыву! Я ж цябе…

Пана ахапіла шаленства. Калі перапалоханы да смерці аканом Папярэка прыбег у пакой, Рак-Сялецкі, як бы ачуўшыся, загадаў:

— Астролага — на канюшню! Даць пяцьдзясят дубцоў!..

Столькі дубцоў не выносіў ніводзін чалавек. Хтосьці сказаў пра гэта Багданавай маці. Маланння прыбегла да пана, валялася ў нагах, прасіла-маліла памілаваць сына. Старая, ссівелая жанчына, яна лавіла цалаваць панскія боты і атрымала ў зубы.

Маланння, канечне ж, не ўпрасіла б Рак-Сялецкага, ды ў гэты момант выйшла паненка Аліна. Маці кінулася да яе, прасіла літасці. Паненка папрасіла бацьку:

— Тата, няхай больш не б'юць астролага!

Той абняў любімую дачку і распарадзіўся адмяніць катаванне.

— Толькі каб я болей не бачыў яго ў маёнтку! — заявіў пан.

Збітага, знясіленага прывяла Маланння свайго сына ў чвартак, змазала раны настоем траў. Дома ён заставаўся да цемнаты. Як толькі добра звечарэла, Маланння сабрала ўсё, што магла, у дарогу і выправіла сына падалей ад панскага вока…

## 5

Рак-Сялецкі не быў бы самім сабою, каб гэтак проста адмовіўся ад свайго загаду. Заўтра ён адчуваў сябе зусім здаровым і, успомніўшы пра астролага, выклікаў Папярэку.

— Ніхто аніколі мяне гэтак не падвёў, як астролаг, — загаварыў Рак-Сялецкі. — Я вучыў яго, а ён мяне падмануў. Што з ім рабіць?..

— Кажуць, ён уцёк з дому, — адказаў аканом.

— Як уцёк? — у пана аж вочы расшырыліся. — Як ён мог!.. Злавіць і забіць падманшчыка і ўцекача!

Папярэка ведаў, як гэта робіцца. Ён выбраў двух маладых здаровых хлопцаў, даў стрэльбу і нож, загадаў злавіць Багдана і забіць, а толькі пасля вяртацца ў маёнтак. Адзін быў Анікей — Багданаў равеснік: разам раслі, разам гулялі змалку. Але не паслухацца аканома ў маёнтку ніхто не смеў…

Пагоня і ўцякач, як бы гуляючы ў хованкі, ішлі амаль поруч. Паляўнічыя на астролага правяралі і навакольныя, і больш аддаленыя вёскі, то абганяючы яго, то застаючыся ззаду.

Месячнай снежаньскай ноччу, калі конныя ехалі па лесе, ледзь-ледзь не сутыкнуліся з Багданам. Добра, што той заўважыў першы і схаваўся за куст.

Коні прайшлі зусім побач. Крайні, падбелены сняжком, моцна фыркнуў, абдаючы пенай.

— Чаго ён? — як здалося Багдану, спалохана спытаў Анікей.

— Хто ведае? Можа, воўк блізка? — адказаў другі коннік.

І яны паехалі хутчэй.

Потым пагоня адстала. Мусіць, лаўцы знявераліся, што ён, Багдан, жывы, і вярнуліся дамоў, каб паведаміць аканому і пану, што астролаг загінуў у дарозе.

## 6

Толькі летам Багдан нарэшце прыблукаў у мястэчка. Быў якраз фэст. На кірмаш з'ехалася розны люд. Былі тут важныя паны, купцы ў багатых, падшытых собалем і залатам кафтанах. Былі апранутыя і бядней. Былі такія, як і ён: у паношаным, парваным адзенні. Так што на прышэльца не звярнулі ўвагі.

Нават тое, што на кірмашы ён не прытаргоўваўся, а проста глядзеў, нікога не здзіўляла: не ўсе ж грашавітыя! Багдан спытаў таго-сяго, дзе можна было б пераначаваць, а то і пажыць.

— Ідзі да Ёселя Шыманчыка ў карчму! — падказалі яму.

І ён пайшоў.

Багдан ахвотна дапамагаў Ёселю па гаспадарцы. Таму, як скончыліся грошы, Шыманчык пакінуў «юродзівага» ў сябе. Варта было паслухаць Багдана, каб пераканацца, што не ўсё ў парадку ў чалавека з галавою. Вынікала, што жыў ён у вялікім маёнтку, хадзіў у мантыі з залатымі зоркамі, а сам вяльможны пан Рак-Сялецкі радзіўся з ім. Усё гэта было непраўдападобна, да таго ж ён часта называў сябе астролагам.

Местачкоўцам не дадзена было зразумець, ці то мянушка, ці, можа, прозвішча. Некаторыя, звяртаючыся да Ёселевага рабочага, казалі яму: пане Астролаг!

# Які ў мінулага твар?..




**«Што ж, часам дробная манетка можа пусціць гісторыю па іншай дарозе. А з нашым беларускім шчасцем гэтая гісторыя абавязкова будзе пакручастай і амаль што неверагоднай».**

Толькі што вы прачыталі апошнія словы рамана Людмілы Рублеўскай «Авантуры Пранціша Вырвіча, здрадніка і канфедэрата», што друкаваўся цягам апошніх месяцаў у «Полымі». Імаверна, што гэта і апошнія словы эпапеі ўвогуле. Прынамсі, на думку пра канчатковае завяршэнне гісторыі наводзяць словы Лёдніка, адрасаваныя Пранцішу: маўляў, добра, што ў цябе тады, па дарозе на Валожын, знайшоўся шэлег... Кола замкнулася, чытач настальгічна ўздыхае.

Цяжка перагарнуць старонку і з авантурнага XIX стагоддзя Людмілы Рублеўскай перанесціся ў тужлівую рэчаіснасць Анатоля Зэкава. Аўтар пачуваецца нязменна самотным і не толькі не хавае гэтага, але, наадварот, усяк эксплуатуе тужлівае пачуццё на карысць творчасці. Нізка пад назвай «Відушчая душа» ў № 10 «Полымя» вынікае са спадчыны Экзюперы («відушчае адно толькі сэрца»), народнай творчасці («перш чым раз адрэзаць, сем разоў адмерай») і рэфлексій з нагоды хуткаплыннасці веку (тэма надзвычай папулярная ў шэрагу аўтараў сталага веку: абставіны выштурхнулі іх з зоны камфорту, што ўвасабляецца ў вялікай колькасці мінорных вершаў).

Васіль Макарэвіч, наступны аўтар нумара, ні на каго не крыўдуе. Хоць мае на тое, здавалася б, больш правоў. Мы пагодзімся з Леанідам Галубовічам, які ў свой час адзначыў: паэзія В. Макарэвіча недаацэненая.

У вершах і прозе яго таксама ёсць нязменнае пачуццё, але не тугі, самоты ці разгубленасці — непадробнага жыццялюбства. Найменшая драбніца захапляе яго ледзьве не па-дзіцячы. Шмат у чым паўтарае гэтыя рысы герой апавядання «Бяроза».

> *Заўжды цікава пабачыць навукоўцу ў ролі мастака. Прыкладам, Алег Лойка пісаў вершы. Уладзімір Гніламёдаў — гэта ўвогуле класічны прыклад. А ў «Полымі» з паэтычнай нізкай выступіў Яўген Гарадніцкі.*

Тое, што Васіль Макарэвіч умее зачараваць словам, мусіць быць вядома ўсякаму, хто хоць раз чытаў яго прозу. У пэўны момант ловіш сябе на тым, што не разумееш, пра што менавіта ідзе гаворка, бо свядомасць твая загайданая алітэрацыямі, нейкай народнай прыпеўнасцю, цёплым, свойскім голасам аўтара. Той жа эфект стварэецца ў названым апавяданні.

Спачатку ты настроены скептычна: бярозкі! Зноў! Сапраўды, сімвал скарыстаны да немагчымага. Але аповед ідзе, скепсіс знікае, пачынаецца сапраўдная зацікаўленасць героямі. Іх Васіль Макарэвіч стварае эскізна: некалькі рэплік, кароткі флэшбэк і напрыканцы — пара сказаў пра далейшы лёс. І гэта не аўтарская скупасць, а пачуццё меры: і такіх малых сродкаў пры таленце празаіка дастаткова.

Што да гэтай «бярозкі», метафара непрыхаваная: увасабленне самага светлага, добрага ў жыцці; хочаш — вера ў цуд, хочаш — чыстая душа чалавека, за якую галоўны герой нямала змагаўся. І сам герой, што чакана, змяняецца да лепшага.

Пры тым, што аповед чытэльны (а гэта ўжо нямала як на сённяшні рахунак), пакідае непрыемны прысмак пэўнай саладжавасць, рамантычная захопленасць «звычайным цудам». Гэты ўзнёслы тон у сукупнасці з даволі жорсткімі рэаліямі, да якіх аўтар звяртаецца (прыкладам, галоўны герой — ваенны інвалід), стварае часам блазнерскую, здзеклівую інтанацыю, да чаго аўтар наўрад ці імкнуўся.

Заўжды цікава пабачыць навукоўцу ў ролі мастака. Прыкладам, Алег Лойка пісаў вершы. Уладзімір Гніламёдаў — гэта ўвогуле класічны прыклад. А ў «Полымі» з паэтычнай нізкай выступіў Яўген Гарадніцкі. Яго вершы здаюцца ўрыўкамі старажытнай філасофскай паэмы, прысвечанай Памяці. Герой упарта звяртаецца ў мінулае, спрабуе прыпыніць час, каб зразумець, што ж ён насамрэч такое, які ў мінулага твар, дзе кропка тут, якая для кожнага з'яўляецца нулявым пунктам, адкуль выстрэльваюць два шляхі — наперад і ў былое.

Лагічны працяг тэмы — эсэ Міколы Чарняўскага «На скрыжаваннях памяці...». Калі апусціць усе факты — то бок, імёны герояў, прывязанасць да часу, «геаграфію», — застануцца развагі пра творцу. З ім, творцам, судакранаюцца асяродак, акалічнасці эпохі, крытыка як палярная з'ява (падаецца, менавіта як нешта супрацьлеглае творчасці ўспрымае Мікалай Мікалаевіч крытыку). І партрэт гэтага абстрактнага творцы нагадвае партрэт лірычнага героя Анатоля Зэкава: абдзелены ўвагай, недаацэнены, самотны, хоць і выдае з сябе веселуна. І ўсё ж незразумела, чаму аўтар папракае крытыка Барыса Б. у тым, што той параўноўваў паэму Хведара Чэрні «Размова з памяццю» з выбітнымі прыкладамі жанру. Хіба віна крытыка, што параўнанне не ідзе на карысць разгляданаму твору?..

«Галасы свету» гэтым разам гучаць з Усходу: Заік Нуры, паэт з Татарстана, сустрэў Вялікую Айчынную ў Беларусі, партызаніў з Заслонавым, жыў у Оршы. Вершы, перакладзеныя на беларускую мову Міколам Мятліцкім, маюць, між тым, мала адметна нацыянальнага — гэта агульнае для паэтаў вайны слова за мір, слова пра барацьбу. Каб чытач меў магчымасць ацаніць талент паэта, хацелася б бачыць пераклады твораў рознай тэматыкі.

Сярод публікацый навукова-публіцыстычнай часткі нумара ўвагу прыцягваюць артыкул Лады Алейнік (яшчэ адно пацвярджэнне невычэрпнасці прозы А. Федарэнкі), гутарка Зіновія Прыгодзіча з мастаком Леанідам Шчамялёвым (відавочна, спадар Зіновій рыхтуе матэрыялы для трэцяй кнігі «партрэтаў»), а таксама — тэкст Алеся Марціновіча пра Лепельшчыну (публікацыя ўвабрала ў сябе шэраг біяграфій, паэтычны экскурс і, вядома ж, аповед пра Лепельскае возера і яго цмока).

І калі на першы погляд кастрычніцкае «Полымя» не мае пэўнай канцэпцыі, на другі вы заўважыце, што сэрца дзясятага нумара — гісторыя.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Тэатральна!

**Новы нумар «Нёмана» ў першую чаргу прывабіць аматараў беларускага тэатра. Часопіс знаёміць адразу з дзвюма зорнымі асобамі — народнай артысткай Беларусі Марыяй Захарэвіч і заслужанай артысткай Аксанай Волкавай.**




Пра М. Захарэвіч распавядае Уладзімір Ліпскі ў тэатральнай аповесці «Нарачанская чайка», а оперная спявачка А. Волкава — суразмоўца Зіновія Прыгодзіча ў рубрыцы «Культурны свет».

Для чытача аповесці галоўнымі адкрыццямі можа стаць, па-першае, імя «беларускага Станіслаўскага», знакамітага рэжысёра і прафесара Канстанціна Саннікава, а па-другое, лісты Уладзіміра Караткевіча да Марыі Захарэвіч, напісаныя ў складаны перыяд жыцця актрысы. Вядома, у творы падрабязна апісваецца біяграфія гераіні, ёсць тут і згадкі пра знаёмства з актрысай ад яе сваякоў, землякоў і калег. Але, магчыма, дарэчы былі б і фрагменты размоў з артысткай — усё адно будучая кніга атрымаецца больш дакументальнай, чым мастацкай. Погляд на гераіню «з боку» крыху абмяжоўвае ў раскрыцці яе ўнутранага свету, таму многія цікавыя аспекты творчай дзейнасці Марыі Захарэвіч застаюцца нявысветленымі.

Пытанні, якія так часта хочацца задаць знакамітай артыстцы, згадвае З. Прыгодзіч у інтэрв'ю з Аксанай Волкавай. Чалавеку, дасведчанаму ў музыцы, яны могуць падацца дастаткова наіўнымі, але для шырокага кола чытачоў такое інтэрв'ю выдатна пасуе, бо дазваляе даведацца шмат новага пра свет музыкі і напружаны рабочы графік прафесійных выканаўцаў.

Проза асобных нумароў «Нёмана» часта вельмі блізкая паводле тэмы і стылю. Гэтым разам творы Алега Ждана, Дзмітрыя Туманава і Алега Крукава распавядаюць пра крыўду, расчараванне і несправядлівасць. А. Ждан звяртае ўвагу на абыякавасць грамадства і блізкіх сваякоў да старых, а Д. Туманаў нагадвае пра людзей, якім праз пэўныя асабістыя якасці ніколі не шанцуе ў жыцці. Шчаслівы фінал надараецца ў «Аптымісце» А. Крукава, светлае заканчэнне мае і апавяданне «Бабуля» Марыны Верабей, дзе падкрэсліваецца неабходнасць памятаць пра свой род, зямлю дзядоў і прадзедаў. Апавяданні аднолькава лаканічныя, а ўзорнымі тэкстамі падаюцца творы Алега Ждана (напісаныя ў арыгінале па-беларуску), якія ўпрыгожылі б кожны празаічны зборнік.

У «Нёмане» працягваюць друкавацца эсэ Тацціны Шамякінай «Зямля ў арэоле таямніц» і артыкулы Георгія Кісялёва пад рубрыкай «Майстэрства роздуму» («Искусство суждения»). У кастрычніку выдатны крытык разважае пра паэтычныя зборнікі шасці не вельмі вядомых аўтарак, якія пішуць пераважна на рускай мове. Цікава, што Г. Кісялёў звяртае ўвагу не толькі на мастацкую вартасць твораў, але і на стаўленне паэтэс да Беларусі і беларускай культуры, якое адлюстроўваецца ў вершаваных радках. У добразычлівым і лёгка напісаным артыкуле крытык не толькі аналізуе творы, але і вучыць ацэньваць паэзію. Больш за ўсё Г. Кісялёву імпануе кніга Алы Лапошыч «Рака часу». «Проста і душэўна. І зноў — ні адняць, ні дадаць. Гэта ўжо не проста майстэрства. Гэта вышэйшая матэматыка паэзіі, гэта ўзровень той дакладнасці, калі перачытваеш радкі, якія цябе ўразілі, і адчуваеш непаразуменне, не ведаеш, як апісаць захапленне аўтарам (...), які выявіў тое, што ты і сам адчуваў, ды толькі не здолеў падабраць словы». Вось яна, найвышэйшая адзнака з боку крытыка, з якой, відаць, пагодзяцца і многія чытачы!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Усцешаныя прозай

**Менавіта так мусяць пачувацца чытачы «Маладосці» ў кастрычніку.**




Найперш трэба падзякаваць Валерыю Гапееву. Гэтым разам ён адмовіўся ад дэтэктыўных матываў і звярнуўся да алегарычнай казкі. Назва кажа сама за сябе: «Пра мару, хлопчыка і стрэмку». Нягледзячы на знарок просты лад аповеду, на «дзіцячую» інтанацыю, казка адрасаваная сталаму чытачу. Альбо юнаму — як перасцярога.

Кацярына Мядзведзева як празаік вядома менш за спадара Валерыя, і тым большай увагі заслугоўвае кароткая аповесць «Чараўнік для Дэйсі Мэй». Аўтарка знайшла залатую сярэдзіну паміж адстароненасцю стваральніка і яго непасрэднай зацікаўленасцю творам, так што вы ўрэшце не задумваецеся, добра ці кепска напісаная аповесць (а напісаная яна добра), — вы проста слухаеце.

Яшчэ адзін «кастрычніцкі празаік» — Вадзім Крук, які «лічыць цікавым малой колькасцю слоў абудзіць у чытача шмат эмоцый». Часам гэтае жаданне занадта відавочнае і выклікае зваротны эфект. Але іншым разам, калі аўтар не засяроджвае ўвагу на эмоцыях і дае адстароненае, лаканічнае апісанне, жаданае дасягаецца. Прыкладам, калі ў апавяданні «Адэлька і сонца» ён «глядзіць» на свет вачыма маленькай гераіні, мы адчуваем найперш яго самога, а не чатырохгадовае дзяўчо. Зусім іншая справа з доўгачаканым з'яўленнем таты, дзе напоўніцу перададзенае дзіцячае захапленне сталасцю, сур'ёзнасцю бацькі, якія ў вачах Адэлькі выглядаюць прыкметамі гераічнасці. Але істотна іншае: спадар Вадзім ведае, чаго хоча ад тэксту. А гэта калі не палова, дык траціна поспеху.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Блаславёныя. Выклятыя

## Геніі падобныя да іншых людзей, але да іх — ніхто

**Гісторыя літаратуры поўніцца легендамі. Адна з такіх легенд прызнае, што, калі ў 1937 годзе, пасля шалёнага разгулу сталінскіх рэпрэсій, на апошніх сямнаццаць беларускіх пісьменнікаў былі выпісаныя ордары на арышт, Сталіну даклалі: калі ордары ўступяць у дзеянне, Беларусь пазбавіцца нацыянальнай інтэлігенцыі. Затым было добра вядомае «Ліквідаваць ордары, а выдаць ордэны».**

### ПАЭТ-АПТЫМІСТ

Так былі ўзнагароджаныя Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля. Праз нейкі час беларускія газеты «застракацелі» калектыўным партрэтам пісьменнікаў-ардэнаносцаў. Легенда… Але якая яскравая!

Нялёгкімі былі шляхі да прызнання ў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пра гэта сведчаць хоць бы «Адкрытыя лісты» і выступленні Купалы. Яны адрозныя па духу, адрозныя па шчырасці, па змесце і свабодзе выказвання. Звернемся да некаторых з іх, не прэтэндуючы на вычарпальнасць характарыстык і глыбіню навукова-даследчага аналізу. Нам сёння важнейшыя думкі народных пісьменнікаў пра будучыню Беларусі.

На 15-я ўгодкі сваёй літаратурнай дзейнасці ў словах, прамоўленых у Мінску 24 чэрвеня 1920 года, нягледзячы на тое, што Беларусь яшчэ знаходзілася пад польскай акупацыяй, паэт Купала вылучыў галоўнае — адзінства народа ў змаганні за незалежнасць, не выказваючы аніякіх сімпатый ні да савецкай улады, ні да прысутных прадстаўнікоў так званай польскай акупацыйнай адміністрацыі. Купала палка і цвёрда даводзіў: *«Трудны і цярністы шлях прыйшлося прайсці нам, беларусам, за гэты час змагання за лепшую долю, за лепшую славу для сваёй Бацькаўшчыны»*.

Купала згадвае тыя высілкі, калі *«некалькі шалёных галоў захацелі галовамі мур прабіваць — адбудоўваць Бацькаўшчыну»*. З паэтычным запалам ён гаворыць пра гістарычныя мары беларусаў: *«Арліным узмахам агніцветнай думкі мы скінулі й патапталі векавечную брахню, — брахню, што Беларусі не было й няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае да сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе»*.

> *У вершы «Паўстань з народа нашага…», напісаным 28 жніўня 1919 года, сказана пра надзею, што беларускі народ вылучыць са сваіх шэрагаў прарокаў, песняроў, ваяроў, Уладара. Менавіта ў гэтым вершы прагучаў заклік, які можа і ў нашым стагоддзі быць нацыянальнай ідэяй беларускага народа: «Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю».*

Купала ўпэўнены: *«…зямля, засееная касцьмі сыноў беларускіх, будзе вечна належаць да ўнукаў беларускіх; спаленую хату беларускі мазоль адбудуе, сваю сяўбу ён сам будзе жаць»*. А заканчвае зваротам да ўсіх і кожнага на Беларусі: *«Хай толькі асвеціць Вас вялікая думка — аддаць усё для сваёй Бацькаўшчыны, нават жыццё, калі яна Вас да гэтага пакліча»*.

У лісце на адрас рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь» Купала ў 1925 годзе прызнаваўся: *«…гэта свята не маё, а беларускай нацыянальнай ідэі… Я толькі падслухаў думкі сардэчныя беларускага селяніна й работніка да гэтыя думкі на паперу перавёў»*. І тут жа: *«Але што не тварылася б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе»*.

### «ПАКАЯННЕ»

Зусім іншы змест і іншы настрой у «Адкрытым лісце Я. Купалы», які напісаны ў Мінску 10.X.1930 года. Яму папярэднічалі спроба самагубства, частыя выклікі ў ДПУ, допыты, катаванні, суровыя і цвёрдыя патрабаванні, каб паэт з народа ўзяў на сябе ролю кіраўніка міфічнай, быццам бы створанай народнай



*Да паэтаў, чые вобразы сталіся ключавымі для беларускай культуры, звярталіся многія мастакі. Прыкладам, вядомыя партрэты «Янка Купала» (1981) і «Якуб Колас» (1982), напісаныя Міхаілам Савіцкім.*

інтэлігенцыяй, нацыянал-фашысцкай контррэвалюцыйнай арганізацыі, якой і назву прыдумалі дамарошчаныя «архітэктары» палітычных авантур — «Вольная Беларусь».

На Захадзе, прынамсі ў выданні «Беларускі звон» у Вільні, выйшлі газеты з партрэтам Янкі Купалы ў чорнай жалобнай рамцы з надпісам: «Вядомы беларускі пісьменнік Я. Купала паконччыў жыццё самагубствам у знак пратэсту супраць бальшавіцкай тыраніі».

Немагчыма са спакойным сэрцам чытаць падобныя «прызнанні» творцы. «Я падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму… не змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсвядоміць усю веліч і гістарычную немінучасць пралетарскай рэвалюцыі». Купала «адхрышчваецца» ад лепшых сваіх твораў, напісаных наперакор уладнай думцы. «Дзякуючы гэтаму свайму асляпленню, з'явіліся такія творы з ярка нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, як, прыкладам, «Паўстань», «Перад будучыняй», п'еса «Тутэйшыя» і інш.». У вершы «Паўстань», поўная назва якога «Паўстань з народа нашага…», напісаным 28 жніўня 1919 года, якраз сказана пра надзею, што беларускі народ вылучыць са сваіх шэрагаў прарокаў, песняроў, ваяроў, Уладара. Менавіта ў гэтым вершы прагучаў заклік, які можа і ў нашым стагоддзі быць нацыянальнай ідэяй беларускага: «Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю».

### АРЫШТАВАНАЯ ЛІТАРАТУРА

Прыкладна тым самым часам прагучаў заклік Якуба Коласа ў адказ на падзел краіны паводле Рыжскай дамовы 18 сакавіка 1921 года на Заходнюю і Усходнюю Беларусь: «Будзем мы самі гаспадарамі» (верш «Беларускаму люду»). Дарэчы, усе гэтыя вершы Купалы і Коласа былі забароненыя, «рэпрэсіраваныя» і ў савецкія часы не ўключаліся ў зборы твораў, ні разу не перадрукоўваліся. Усяго пад забарону падпала 53 купалавых вершы дарэвалюцыйнага часу і 14 твораў савецкай пары. Не меней іх было і ў Коласа.

Дарэчы, з вершамі апошняга вытвараўся яшчэ горшы здзек адразу пасля рэвалюцыі (як, зрэшты, і з ім самім):

«"Новая зямля" — гэта старая зямля, кулацкі твор, які культывуе атавісцкія дробнабуржуазныя кулацкія настроі, цягне ў далёкае мінулае. Рыфмы дзеяслоўныя, памеры бедныя. Сюжэты абмежаваныя, апісанні расцягнутыя, аморфныя, зусім не дынамічныя, "не мускулістыя".

"У палескай глушы" — твор не пралетарскі, старая беларуская цягамоціна. Андрэй Лабановіч — лапатны гнілы інтэлігент. Рэзанёр і слюнцяй, бяздзейная натура».

Выступленні народных паэтаў байкатавала моладзь. «Тут больш глядзяць не на твор, а на твар», — скрушна заўважаў Колас пасля аднаго такога выступлення ў Барысаве. «Прышліце да нас Дудара і Вольнага, а ўсякіх там Коласаў ды Бядуль наша моладзь не ведае і ведаць не хоча», — прасілі ў лісце ў Цэнтральнае Бюро «Маладняка» маладнякоўцы-камсамольцы Полаччыны. Рабіліся спробы супрацьпаставіць і пасварыць Коласа і Купалу, на што тыя не паддаліся. «Мы ад Коласа не пакінем і воласа», — заяўлялі маладыя пііты, пабраўшыся «ў рожкі са старымі».

Калі ўтвараўся Саюз пісьменнікаў Беларусі, на працягу двух гадоў ні Купалу, ні Коласа не ўключалі ў аргкамітэт па падрыхтоўцы да з'езда, не вылучалі ў кіруючыя органы Саюза. «А дзе Кірыл і Мяфодзій?» — прагучаў папераджальны воклік прадстаўніка з Масквы.

### ПАРАТУНАК?

Якуб Колас напрыканцы жыцця, у жніўні 1956 года, звярнуўся ў ЦК КП Беларусі з адкрытым «Лістом у абарону беларускай мовы і культуры» з прапановай пашырэння сферы ўжытку мовы тытульнай нацыі. Паўдня праседзеў народны паэт Беларусі ў цэнтральным камітэце кампартыі Беларусі, дзе даўно ўжо ведалі пра змест паслання.

На вуліцы небывалая гарачыня: духата даймала...

Аддаўшы ліст, народны паэт, вярнуўшыся дадому, памёр.

Янка Купала трагічна загінуў у Маскве 28 чэрвеня 1942 года.

Што доўгі час берагло ад тэрору і заўчаснай смерці Янку Купалу і Якуба Коласа і нават дапамагала ім супрацьстаяць гвалту над культурай? Адказ знаходзім у працах заходніх вучоных, даследчыцкая думка якіх доўгі час заставалася для літаратуразнаўцаў недаступнай.

У Лондане, у беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны, аўтару гэтых радкоў давялося пазнаёміцца з вельмі абгрунтаванымі (як на наш погляд) і няззвыклымі довадамі таго, што «ўратавала» пісьменнікаў у гады татальных сталінскіх рэпрэсій. Асабліва тут, на Беларусі, дзе за 36 кіламетраў ад Мінска, на станцыі Негарэлае пад Дзяржынскам, пачыналася заходняя мяжа. Калі следчыя казалі: «Дзверы нашых камер адчыняюцца толькі ў адзін бок».

> *Усяго пад забарону падпала 53 купалавыя вершы дарэвалюцыйнага часу і 14 — савецкай пары. Не меней рэпрэсіраваных твораў было і ў Коласа.*

У кнізе Станіслава Станкевіча «Янка Купала. На сотыя ўгодкі ад нараджэння» (Нью-Ёрк, 1982) аўтар прыводзіць шэраг сведчанняў, чаму бальшавікі і «партыя ўважала за выгаднейшае пакінуць (Купалу і Коласа. — **У. Н.**) прынамсі часова ў спакоі». На адным з такіх сцвярджэнняў хочацца засяродзіць асаблівую ўвагу. Англійскі вучоны чэшскага паходжання Вальтар Коларц у кнізе «Расія і ейныя калоніі» падкрэсліваў трывалую думку вучоных заходняга свету, чаму рэпрэсіі «абмінулі» творцаў: менавіта магутны талент і беззапаветнае служэнне свайму народу, уменне жыць і працаваць з народам, непарушная духоўная повязь з ім і выказванне яго запаветных дум далі ім такую магчымасць. Звернемся да самога выказвання (арфаграфія арыгінала захоўваецца):

«Роля, якую ігралі Колас і Купала ў савецкай Беларусі, не мае сабе падобных ува ўсім СССР. Ніводзін беларускі бальшавік ніколі ня йграў ролі народнага правадыра Беларусаў, гэтая роля правадыраства была ў руках Коласа й Купалы. Заміж «адхіліць» двух паэтаў, савецкі ўрад пробваў кіраваць на «добры шлях» іхнюю паэтычную дзейнасць і выкарыстоўваць іх для камуністычнай прапаганды. Колас і Купала былі часта аб'ектамі крытыкі; у пэўных мамэнтах выглядала, што яны ў няласцы, але яны ніколі ня зьніклі, як гэта сталася із шматлікімі выдатнымі пісьменнікамі й паэтамі амаль усіх галаўнейшых народаў Савецкага Саюзу.

Вынішчэнне Коласа й Купалы было-б раўназначным з банкруцтвам савецкай культурнай палітыкі ў Беларускай ССР, таму што гэтыя два чалавекі былі не толькі выдатнымі персанажамі, але, на справе, культурнымі «інціцыятарамі» свайго народу. Беларусь магла-б абыйсціся без сваіх гісторыкаў і фальклярыстычных «нацыянал-дэмакратаў», яна магла абыйсціся без сваіх кіруючых палітыкаў, але Колас і Купала былі неабходнымі. Іхні выпадак паказвае, што на ўсё ёсць межы, нават на чыстві ў Савецкім Саюзе. Нельга было пасунуць чыстку на Беларусі аж да таго, каб паставіць пад небяспеку культурныя асновы трэйцяга народу Савецкага Саюзу. Вось чаму Колас і Купала былі ашчаджаныя, не зважаючы на іхнія «грахі» і "ўхілы"».

З падобнай думкай, лічу, цяжка не пагадзіцца.

Купала і Колас былі «пакінуты» ў беларускай літаратуры, хоць «секвестр» іх мастацкіх здабыткаў «кідаўся» ў вочы, заставаўся даволі адчувальным для тых, хто дасканала ведаў творчасць геніяў. На творах народных песняроў выгадаваліся цэлыя пакаленні. Творчасць іх у многім прадвызначыла самасвядомасць беларускага народа, выхавала іх погляды на свет, на лёс роднага краю, стала асновай жыццядзейнасці не аднаго пакалення беларусаў.

У гісторыі сусветных культур няшмат знойдзецца прыкладаў такога беззапаветнага служэння Бацькаўшчыне. Купала і Колас да апошняга заставаліся вернымі ідэі беларускай дзяржаўнасці. Яны былі пасланы беларусам нібыта на ўзнагароду за векавечнае цярпенне, з прадчуваннем так неабходнай для нас незалежнасці, з думкай пра будучыню Беларусі.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# Рыгор Сітніца: «Мяжы дасканаласці не існуе»

**Як высвятляецца, мастак, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца ўмее абыходзіцца са словамі на паперы не горш, чым з фарбамі на палатне, а літаратуру лічыць выратавальным колам ад паўсядзённых турбот. Якія матывы перамагаюць у творчасці чалавека, што здолеў стварыць уласны мастацкі стыль? У чым адрозненне сапраўднага верша ад рыфмаванага прадукту? Як дабіцца поспехаў у прафесіі? Пра гэта і не толькі — у інтэрв'ю карэспандэнту штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».**



Фота Юліі Рай.

**— Рыгор Сямёнавіч, як атрымалася, што вас, знакамітага ўжо графіка, захапіла паэзія?**

— Пісаць я пачаў яшчэ ў класе восьмым, але па-руску — актыўна графаманіў. У добрым сэнсе, бо для мяне гэта было той самай школай, з якой выходзяць сапраўднымі літаратарамі. Імітаваў Ясеніна, Вазнясенскага, Еўтушэнку, Пастарнака… Студэнтам стаў публікавацца, атрымаўшы нядрэнную ацэнку творчага асяроддзя. Але раптам узнікла нестыкоўка: беларуская свядомасць і руская мова. Гэта ператварылася ў настолькі ненатуральную для беларуса справу, што я пакінуў паэзію амаль на 15 гадоў! Не ведаю дакладна, чаму: з-за крызісу жанру ці таму, што пачаў актыўна рабіць з сябе мастака. Бо скончыць адпаведную ўстанову — палова справы. Дзесяць гадоў я патраціў на тое, каб стаць асобай у мастацкім асяродку.

**— Бачна, што вы — вельмі патрабавальны да сябе…**

— Для мяне важна, каб праз некалькі гадоў я прачытаў свой верш — і ён мяне задаволіў. Часта выбракоўваю ўласныя творы, дзіўлюся, як можна было так напісаць! Заўсёды думаю: ці варта гэта паказваць людзям? Доўга працую над кожным радком, удасканальваю кампазіцыю, вышчышчаю хібы. Я ўжо не ў тым узросце, калі абавязкова трэба надрукавацца, каб паказаць, які ты таленавіты. Іранічна стаўлюся да ўсіх праяў так званай вядомасці. Слава — мітусня. Добра, калі чалавек сапраўды славуты...

> *Поспех творцы ў любой галіне культуры залежыць ад інтэлектуальнага развіцця, мастацкага густу і духоўнай дасканаласці. Калі пачуеце, што чалавек называе сябе разумным, — пашкадуйце яго.*

**— Рыгор Сямёнавіч, паэзія зноў вярнулася да вас пасля «вандроўкі ў часе»...**

— Дзякуючы эксперыментам з перакладамі. Напэўна, мне споўнілася гадоў сорак. Цяпер здаецца, што вершы нікуды і не знікалі. Хаця б таму, што я ўвесь час захапляўся чытаннем і ў вялікай колькасці завучваў творы на памяць. Ды і зараз, калі іду па вуліцы з вольнай галавой, сам пра сабе прачытваю нешта. Мне прыемна ўвесь час знаходзіцца побач з паэзіяй. Больш за тое — яна ратуе мяне ад шматлікіх побытавых і працоўных клопатаў. Калі пашчасціць і нечакана здарыцца хаця б адзін верш, то ён трымае мяне ў добрым настроі некалькі тыдняў. Апошнім часам ратуюся яшчэ і прозай, хоць доўга не дазваляў сабе гэтага рабіць, бо проза, як і праца над карцінамі ў майстэрні, патрабуе не адной гадзіны і — ўседлівасці. У мяне ўжо напісана дзве аповесці — зусім маленькая і доўгая, амаль на трыста старонак.

**— Што ж наконт перакладаў? Якім аўтарам вы аддалі перавагу?**

— Мой шлях перакладчыка пачаўся з вершаў Буніна. Памятаю, што быў у той лёсавырашальны дзень на практыцы з вучнямі і, як заўсёды, узяў з сабой некалькі паэтычных зборнікаў, сярод якіх вылучыў томік рускага генія. Прачытаў некалькі разоў, вывучыў палову на памяць, а потым, калі не было чаго рабіць, сеў і паспрабаваў пера-кладаць на родную мову. Самае цікавае, што мне гэта спадабалася — і сам занятак, і якасць працы. Лічу, кажучы, гэта больш складана, чым пісаць уласныя вершы, таму што ты павязаны па руках і нагах. Трэба ж дакладна перадаць вобразную сістэму і, галоўнае, энергію, мелодыю твора. Памер, рытміка — другасныя, чыста тэхнічныя патрабаванні. Натхнёны поспехам, я перастварыў на беларускі лад некалькі вершаў Самойлава, Набокава, Хадасевіча і… нейкім чынам выбіўся на ўласнае вершаскладанне. Падбіў мяне на паэзію Рыгор Барадулін, на той час ужо блізкі мой сябра. Я прачытаў яму пераклад верша Вазнясенскага «Ты мяне на світанку пабудзіш…», хаваючы сваё аўтарства. Але Барадулін усё зразумеў, пахваліў, запытаўся: «Што ў цябе, Рыгор, ёсць яшчэ?..»



З серыі графічных аркушаў «Ратаванне Грэцыяй», 1997 год.

> *Так здарылася, што ў мяне няма пейзажаў і нацюрмортаў. Там, дзе ў творы пачынаецца краявід ці ўсплывае фігура чалавека, я спыняюся.*

**— Пра што вашы вершы?**

— Ёсць у мяне цыкл твораў пра чалавечую самоту, некалькі грамадска-палітычных рэфлексій, шэраг роздумаў пра вострыя праявы жыцця. Пішу вершы, калі прыходзяць канкрэтныя мастацкія вобразы. Так было з Курыцкай дубровай, што каля вёскі, дзе я нарадзіўся. Уявіце: магутныя палескія дрэвы, якім ужо, напэўна, тры-чатыры стагоддзі, знішчылі ўшчэнт! Балючыя адчуванні выліліся на паперу, бо ссечанае, спілаванае ці зламанае дрэва я ўспрымаю на ўзроўні забітага чалавека. Моцна кранаюць і хрысціянскія матывы, памежны стан чалавека. Пра гэта паэма «Знак перасцярогі» — ад імя таго, хто стаў на мяжы жыцця і смерці, зазірнуў за яе і ўбачыў свой натуральны твар...

А ўвогуле, усе вершы пачынаюцца… з кахання! Без яго не нарадзіцца ніводнаму талковаму радку.

**— І калі, дарэчы, выйдзе вашая кніга?**

— Кніга амаль гатовая, застаецца толькі данесці яе да друкарні. Не ведаю, ці паспею ў гэтым годзе. Адзін час думаў, што, можа, прасцей дыск запісаць ды параздаваць сябрам.

**— Ці ёсць у вас улюбёныя жанры? І дзе, на вашую думку, заканчваецца графаманства і пачынаецца майстэрства?**

— Больш за ўсё мяне цікавіць драма — у чалавечых адносінах ці прыродных з'явах. Вось там глыбіня! Усе асноўныя якасці чалавека праяўляюцца падчас няпростых жыццёвых сітуацый, у пераломныя моманты лёсу. Сусветная літаратура высокага кшталту пераважна трагічная. Тое ж самае можна сказаць пра кінематограф, тэатр. Драматычныя творы разлічаны калі не на вечнасць, то на некалькі пакаленняў — у адрозненне ад амаль бессэнсоўнага лёгкага чытання. Не разумею і тых, хто кажа: пішу пра прыроду! Пейзажная лірыка, у якой няма сімвала і сэнсу, падаецца мне рыфмаваннем. Прырода — неспасцігальная ў сваёй магутнасці, а чалавек — усяго толькі яе частка…

Асабіста ўпэўнены, што поспех творцы ў любой галіне культуры залежыць ад інтэлектуальнага развіцця, мастацкага густу і духоўнай дасканаласці. Калі пачуеце, што чалавек называе сябе разумным — пашкадуйце яго. Чым вышэй ты падымаешся, тым больш разумееш, што нічога не ведаеш. Мяжы дасканаласці не існуе. Сапраўднае мастацтва прыходзіць, калі ў творцы ёсць не толькі здольнасці, але і моцная воля, прага ведаў, схільнасць да моцных пачуццяў. Возьмем карціну: зроблена тэхнічна, рамства на дзесяцярых хопіць, але — не чапляе! І побач: намазаная невядома чым праца, але ж… у ёй хаваецца энергія! Справа ў тым, што многія творы — проста імітацыя. Кшталту пластмасавай садавіны, што ўпрыгожвае паліцы крам: выглядае апетытна, але смаку і паху на самай справе няма.

**— Чаму часцей за ўсё аддаяце перавагу звычайным прадметам, а не, скажам, вялізным маляўнічым пейзажам?**

— У творах я імкнуся паказаць, што перад гледачамі — беларускі мастак. Адлюстроўваю на палотнах простыя рэчы, паўсядзённыя, побытавыя — але мастацкі прадукт, які атрымліваецца, называюць мадэрновым. Многія параўноўваюць мае карціны з фотаздымкамі — настолькі гіперрэалістычна яны выглядаюць, але лічу гэта абразай! Я не імкнуся скапіраваць бульбіну, цыбулю, кошык ці бервяно, а даследую кожную рэч, адлюстроўваю яе рытміку, пластыку і, галоўнае, выводжу на ўзровень нацыянальных сімвалаў і знакаў. У аснове маіх кампазіцый — і супрэматычныя, і канструктывісцкія элементы, што дазваляе звярнуць увагу на паўсядзённае, пабачыць звыклае з іншага боку.

> *Калі пашчасціць і нечакана здарыцца хаця б адзін верш, то ён трымае мяне ў добрым настроі некалькі тыдняў. Апошнім часам ратуюся яшчэ і прозай, хоць доўга не дазваляў сабе гэтага рабіць.*

Вось так стварыў свой стыль, у якім сёння, калі шчыра, цеснавата. Душа шукае разнастайнасці. Напрыклад, чаму б не намаляваць не проста сімвал хаты ў выглядзе трохкутніка, а погляд на яе праз сон ці ўспамін? Адзін фрагмент карціны будзе гіперрэалістычным, а другі — амаль празрыстым… Але гэта мары.

Так здарылася, што ў мяне няма пейзажаў і нацюрмортаў. Там, дзе ў творы пачынаецца краявід ці ўсплывае фігура чалавека, я спыняюся. Загнаў сябе ў вельмі вузкае творчае гета, каб не разбурыўся мастацкі погляд. Для мяне гэта і пакута, і радасць. Некамерцыйную сцежку выбраў свядома. Як, прыкладам, джазавы музыкант, чые канцэрты збіраюць меншую публіку, затое кампазіцыі жывуць болей, чым танцавальныя хіт. Шмат маіх работ знаходзіцца ў музеях ці прыватных калекцыях, але я не магу ўявіць іх у кватэры! Патрэбнае іншае асяроддзе: чыстая сцяна і вольная прастора.

**— Ці плануеце ўласную выстаўку?**

— У сакавіку 2016 года ў Маскве. Экспазіцыя атрымае назву «Хатняя археалогія» і будзе прысвечана беларускім нацыянальным артэфактам кшталту пячаткі Вітаўта ці зброі Міндоўга.

**— Якіх вернісажаў чакаць ад Саюза мастакоў?**

— У найбліжэйшы час Саюз мастакоў плануе выстаўку графікі, потым — творцаў Магілёўскага аддзялення, а напрыканцы года — моладзевую экспазіцыю. Амаль сфарміраваны план вернісажаў на ўвесь наступны год. Мастацкі працэс бесперапынны. Нягледзячы на пэўныя эканамічныя цяжкасці, мы стараемся зрабіць усё, каб мастацкае жыццё сталіцы і краіны заўсёды было максімальна насычаным.

**Марыя ВОЙЦІК**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Колас. Назаўжды

Вось і сёлета на традыцыйных лістападаўскіх «Каласавінах» сабраліся шчырыя сябры музея, прыхільнікі генія паэта, даследчыкі літаратуры, мастакі з Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі. У межах канферэнцыі, прысвечанай 90-годдзю паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» і 70-годдзю Вялікай Перамогі, прагучала мноства цікавых дакладаў, былі прадстаўлены новыя знаходкі і абмеркаваныя важныя пытанні мемарыялізацыі асобы Песняра і больш шырокага знаёмства свету з яго спадчынай.

— Цікавае супадзенне: 2015 год у нашай краіне аб'яўлены Годам моладзі, і паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка», створаная 90 гадоў таму, мае адрасата. Сам паэт напісаў: «беларускай моладзі прысвячаю», — зазначыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. — А паколькі сёлета ў Расіі — Год літаратуры, то Колас прадстаўляецца і там. У Музеі Аляксандра Блока ў Санкт-Пецярбургу прайшла выстаўка, прысвечаная паэме «Сымон-музыка», была выстаўка ў Літаратурна-мастацкім музеі Марыны і Анастасіі Цвятаевых, а зараз у Калінінградскім гісторыка-мастацкім музеі размешчаная экспазіцыя «Колас і рускія пісьменнікі».

Зінаіда Камароўская таксама распавяла, што рукапіс паэмы «Сымон-музыка» пакуль захоўваецца ў сямейным архіве сваякоў Якуба Коласа, і выказала спадзяванне, што ён будзе перададзены ў музей. Гэта была б вельмі вялікая падзея!

Падчас «Каласавін» у ліку іншых тэм абмяркоўвалася і надзвычай актуальнае пытанне мемарыялізацыі асобы Песняра. На жаль, бібліятэка ў Стоўбцах пакуль не названая ў гонар выдатнага земляка, а ў Вільнюсе дагэтуль няма мемарыяльнай дошкі Якубу Коласу. Няма дакладнай інфармацыі, ці захавалася імя класіка ў назве вуліцы ў Ташкенце, дзе паэт некаторы час жыў… Зрэшты, і ў гэтым кірунку ўжо зробленыя пэўныя крокі. Так, у 2017 годзе ў Стоўбцах з'явіцца помнік класіку, а мемарыяльная дошка ці знак у памяць пра візіт паэта могуць быць устаноўленыя аж у Парыжы.

— 80 гадоў таму разам з групай савецкіх пісьменнікаў Якуб Колас наведаў Парыж, гэтая паездка адбылася ў межах канферэнцыі, — зазначыў намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Анатоль Бутэвіч. — Мы разам з дырэктарам музея Якуба Коласа Зінаідай Камароўскай вядзём перамовы з паслом Рэспублікі Беларусь у Францыі Паўлам Латушкам, каб адзначыць гэтую падзею менавіта ў Парыжы. Спадзяюся, у наступным годзе ў сталіцы Францыі пройдзе выстаўка, прысвечаная Коласу, а кіраўніцтва горада разгледзіць магчымасць устаноўкі памятнага знака ў месцы, звязаным з побытам Песняра ў Парыжы. Гэта крок да таго, каб пра нашых класікаў ведалі і за межамі краіны.



*Скульптура па матывах верша Якуба Коласа «Савось-распуснік». Мастак-рэзчык — Сяргей Кляшчук.*



*Вікторыя Калеснік перадае Зінаідзе Камароўскай украінскае выданне коласаўскага «Дзеда Талаша».*

І замежныя чытачы не маюць магчымасці пазнаёміцца з многімі выдатнымі творамі нашага Песняра, бо яны вельмі мала перакладаліся і перакладаюцца на іншыя мовы. І калі паэма «Новая зямля» досыць шырока прадстаўленая ў якасных перастварэннях, то «Сымону-музыку» зусім не пашанцавала. Пра гэта разважаў у сваім выступленні член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі. Міхась Іосіфавіч распавёў, што сёння фактычна не існуе добрага перакладу паэмы нават на рускую мову. А той, што ўжо зроблены, не можа лічыцца прымальным. Справа ў тым, што на рускую мову пераствораны моцна скарочаны варыянт другой рэдакцыі «Сымона-музыкі». У працэсе супрацы з перакладчыкам пад націскам цэнзуры і па патрабаванні рэдактараў самому Коласу даводзілася выкрэсліваць «ідэалагічна няправільныя моманты», што значна змяніла і спрасціла сэнс усяго твора. І калі да скарачэнняў паэма была надзвычай адметным творам, які значна вылучаўся з усяго напісанага Коласам, то пасля многіх правак «Сымон-музыка» стаў зусім звычайным і някідкім. Па меркаванні даследчыка, пры перакладзе паэмы сёння варта карыстацца першай рэдакцыяй твора — самай поўнай і правільнай, куды яшчэ не былі ўнесены праўкі цэнзуры.

Не абышліся сёлетнія «Каласавіны» без падарункаў ад сяброў музея. Так, Андрэй Антонаў, член-карэспандэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў, перадаў у музей копіі лістоў Якуба Коласа рускаму пісьменніку Аляксею Новікаву-Прыбою, а дырэктар Кіеўскага літаратурна-мемарыяльнага музея М. Рыльскага Вікторыя Калеснік прывезла ў падарунак маркі і значкі з выявай Якуба Коласа, а таксама выданне аповесці «Дзед Талаш» на ўкраінскай мове, што пабачыла свет у 1957 годзе. Адметна, што раней гэтая кніга захоўвалася ў Харкаўскім літаратурным музеі. У сваім прывітальным слове Вікторыя Лявонцьеўна зазначыла:

— Музей сёння — не проста месца, дзе захоўваюцца прадметы, гэта творчая, інтэлектуальная прастора, якая можа стаць выдатнай пляцоўкай для сустрэчы калег, аднадумцаў. Ён павінен выступаць захавальнікам культуры, духу продкаў для наступных пакаленняў. Вельмі прыемна, што ўжо больш як дзесяць гадоў наш музей добра сябруе з Коласаўскім музеем у Мінску.

Ужо добрай завядзёнкай «Каласавін» стала знаёмства шырокай публікі з новымі, амаль сенсацыйнымі знаходкамі, што год ад году робіцца акурат напярэдадні свята. Вось і сёлета падчас канферэнцыі была прадстаўлена фотапаштоўка Песняра, не так даўно выяўленая ў новых паступленнях у збор Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Лёс склаўся так, што першым даследчыкам гэтага ўнікальнага прадмета стала ўнучка Якуба Коласа Вера Міцкевіч.

— Дакумент знаходзіўся ў асабістым архіве першага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Іосіфа Сіманоўскага, — заўважыла Вера Данілаўна. — Ён адметны па многіх прычынах. Па-першае, яму больш як сто гадоў: паштоўка датуецца 1907 годам, яна вельмі добра захавалася. Па-другое, дакумент складаецца з дзвюх каштоўных частак — фотаздымка і рукапіснага тэксту Якуба Коласа. Унізе пад фота змешчаны аўтограф «Огарки накануне роковых событий. Вильня, 1907 год». Гэты фотаздымак — адкрыццё, бо раней нам былі вядомыя толькі выява Коласа-семінарыста 1901 года і партрэт 1908 года, адметна, што і першы вядомы нам ліст Коласа датуецца 1908 годам.

Вера Міцкевіч у сваім выступленні распавяла, што з 1 верасня 1907 года да пачатку 1908-га Якуб Колас жыў у Вільні і працаваў у рэдакцыі газеты «Наша ніва». У гэты час ён часта сустракаўся з сябрамі — студэнтамі Віленскага настаўніцкага інстытута Люкой Гарбацэвічам, Канстанцінам Саўчуком, Сямёнам Анішчыкам. Пазней Кастанцін Саўчук у сваіх успамінах напіша, што тады ўтварылася згуртаваная чацвёрка: Якуб, Лука, Сямён, Канстанцін. Колас іх заахвоціў да працы ў рэдакцыі і называў «Агаркамі» — людзьмі, выкінутымі за парог жыцця. Вось адкуль такі подпіс на фотапаштоўцы. Застаецца загадкай, хто на фотаздымку стаіць побач з Коласам. Найбольш верагодна, што гэта нехта са студэнтаў ці настаўнікаў-агаркаў, звольненых з працы. Адрасат паштоўкі — Сымон Самахвал, блізкі сябар Коласа, з якім ён разам вучыўся ў Нясвіжы. Пазней Сямён стане прататыпам Янкі Тукалы ў трылогіі «На ростанях». На жаль, лёс Сымона Самахвала трагічны: ён у 1938 годзе быў расстраляны.

Але на гэтым сюрпрызы для аматараў творчасці Якуба Коласа не скончыліся. Так, на мемарыяльнай сядзібе музея Песняра адбылося адкрыццё новага скульптурнага блока. Да паэтычнага кутка «Героі твораў Якуба Коласа», дзе яшчэ раней можна было пабачыць выявы Сымона-музыкі, Лабановіча ды Ядвісі і рыб, якіх так любіў лавіць Колас, дадаліся тры новыя драўляныя скульптуры. Гэта героі коласаўскага верша «Савось-распуснік». Іх аўтар — выдатны мастак-рэзчык Сяргей Кляшчук.

— Месца, дзе цяпер стаяць скульптуры, можа стаць выдатным казачным кутком для дзяцей, дзе можна сядзець, чытаць казкі, — распавядае мастак. — Усе беларусы з самага дзяцінства ведаюць коласаўскі верш пра пярэсценькага катка, таму мы не маглі абысці яго ўвагай. З аднаго боку, верш вельмі просты, але разам з тым геніяльны. У скульптурах знайшлі ўвасабленне тры галоўныя вобразы з твора — сам каток, які ўцёк на дрэва, сабачка Рудзька, які сам па сабе добры, але яго прымушаюць палохаць коціка, і збянтэжаны Савось. Можна сказаць, што гэтыя работы — вялікая ўдача для мяне. Сышліся маё бачанне, натхненне і пажаданні супрацоўнікаў музея.

Свята «Каласавіны» не абмежавалася толькі сталіцай. Госці наведалі мемарыяльныя сядзібы паэта ў Акінчыцах, Альбуці і Смольні, усклалі кветкі да помнікаў песняру ў Мінску і вёсцы Мікалаеўшчына, што на Стаўбцоўшчыне. Літаратурна-музычныя вечарыны адбыліся ў Мінску і ў Стоўбцах.



*Фота Наталі Купрэвіч.*

*«Каласавіны». Падчас пленарнага пасяджэння.*

Пройдзе год, і сябры Коласа зноў збяруцца на «Каласавіны». Будуць новыя адкрыцці, знаходкі і навуковыя сенсацыі. Ужо можна прадбачыць, што і дзень будзе сонечным: як заўсёды, гэтаму паспрые сам Якуб Колас.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**Маладзічок**

# Новы год? Чакаем!

**Як толькі выпадзе першы снег, з'явіцца знаёмае ўжо прадчуванне вясёлых зімовых свят — Новага года і Каляд. Чытач можа здзівіцца: ці не надта спяшаемся жыць у новым годзе, калі яшчэ не ўсе справы года бягучага зробленыя. Але калі гаворка ідзе пра выдавецкія клопаты, то варта ўлічваць, што да кожнага свята ці значнай падзеі выдаўцы рыхтуюцца загадзя. Бо кніга (хоць і з'яўляецца самым лепшым падарункам) рыхтуецца не так хутка. Таму, каб трапіла яна да чытачоў акурат да свята, варта паклапаціцца пра гэта за некалькі месяцаў. Усе хочуць новага, свежага, актуальнага, іскрыстага, як першы снег, і духмянага, як бабулін калядны пірог.**

> *Пісьменнікі працягваюць удала выкарыстоўваць прыём падарожжа ў паралельны свет і час, а чытачы з задавальненнем вандруюць разам з героямі па невядомых мясцінах, сустракаюцца з загадкавымі персанажамі.*

## ДЗЕД МАРОЗ — ПЕДАГОГ

Думаецца, сёлета Выдавецкі дом «Звязда» падрыхтаваўся добра да зімовых свят. Ужо пабачыла свет некалькі кніг, якія стануць выдатнымі падарункамі «пад ёлачку».

Вы лічыце, што педагагічныя здольнасці Дзеда Мароза абмяжоўваюцца толькі тым, што ён лічыць добрыя і кепскія ўчынкі, каб вырашыць, ці заслугоўваюць дзеці падарункаў, матывуе выхаванцаў дзіцячых садкоў ды малодшых школьнікаў вучыць на памяць вершы і не баяцца прачытаць іх пры ўсіх на ранішніку? Вы моцна памыляецеся! Пераканацца ў гэтым дапаможа кніга Алеся Марціновіча «Цуды Дзікага лесу».

Аказваецца, Дзеда Мароза можна назваць не проста выдатным настаўнікам, але і педагогам-наватарам. Толькі ўявіце: аднаму з Дзядуляў па волі лёсу даводзіцца пасяліцца ў Дзікім лесе, а хату пабудаваць і ўвогуле на Гнілым балоце, дзе спакон вякоў жывуць нячысцікі. Не так даўно тут знайшоў сабе прытулак і злосны воўк, якога не прынялі ў «лясное грамадства». Але Дзед Мароз выпрабаванняў не спалохаўся. Спачатку ён перавыхаваў ваўка, навучыў яго прыгожа і стыльна апранацца. Воўк жа стаў не проста паслухмяным памочнікам — выдатным выхавальнікам, ужо для сваіх сяброў-д'ябалят. Гнілое балота, якое лясныя жыхары раней абыходзілі за некалькі соцень метраў, паступова ператварылася ў спакойную мясціну, куды не страшна завітаць нават уночы.




Натуральна, гэта стала прыемнай навіной для астатніх жыхароў Дзікага лесу — маладой і даверлівай вавёрачкі Машы, старога і мудрага крумкача Сцяпанавіча. Дзед Мароз разам са сваімі выхаванцамі з радасцю дапамагаюць Машы падрыхтавацца да сустрэчы Новага года, збіраюць падарункі для вавёрачкі і яе новых сяброў — хлопчыка Мішы і яго сабачкі Пальмы… Гэта далёка не ўсе пераднавагоднія прыгоды і клопаты. Пра астатнія чытайце ў кнізе!

Новая аповесць Алеся Марціновіча, што змясцілася пад вокладкай выдання, складаецца з дзвюх частак. Пра сюжэт першай, навагодняй, вы тоесёе ведаеце. Другая ж стане для маленькіх чытачоў сапраўднай нечаканасцю: аўтар распавядае гісторыю пра тое, як жыхары Дзікага лесу сканструявалі… мабільную сувязь. Дзе ў лесе знайсці правады, шкло, мікрасхемы? Пытанні складаныя, але вырашальныя. Звяры могуць быць вельмі вынаходлівымі, асабліва калі гэта героі казачнай аповесці.

## МІСІЯ — ВЯРНУЦЬ ПОСАХ

Прыгоды ў кнігах звычайна пачынаюцца тады, калі іх зусім не чакаеш. Адчыняюцца чароўныя дзверы, і разам з героем ты апынаешся ў невядомым свеце, падарожнічаеш, пераадольваеш перашкоды, здзяйсняеш амаль неверагоднае… а потым дзівосы заканчваюцца ў такі ж непрадказальны момант. Нібыта адно імгненне прайшло: вярнуўся ў рэчаіснасць — ад чараўніцтва не засталося і следу. Толькі ўспаміны, якім наўрад ці нехта паверыць.

Здавалася б, на такім прынцыпе грунтуецца сюжэт многіх чароўных казак, неверагодных гісторый. Варта прыгадаць хаця б «Алісу ў Краіне Цудаў» Льюіса Кэрала, «Хронікі Нарніі» Клайва Льюіса ды «Караліну ў Краіне Жахаў» Ніла Геймана.

Тым не менш пісьменнікі працягваюць удала выкарыстоўваць прыём падарожжа ў паралельны свет і час, а чытачы з задавальненнем вандруюць разам з героямі па невядомых мясцінах, сустракаюцца з загадкавымі персанажамі. Вось і Наталля Ігнаценка ў сваёй новай вершаванай навагодняй казцы «Зімовая прыгода двух братоў» прапануе нам крыху адпачыць ад рэчаснасці ў свеце, дзе жывуць Дзед Мароз, Снягурка, Баба Яга ды Снежная Каралева.

Як кажуць, нішто не прадказвала бяды, але, паводле сюжэта казкі, два браты, катаючыся на санках, нечакана апынуліся не на гарадской горцы, а ў лесе. У гэтым паралельным свеце ім патрэбна выканаць вельмі важнае заданне — вярнуць чароўны посах, які ў Дзеда Мароза скрала бессардэчная Снежная Каралева. Сюжэт казкі разгортваецца далей — і браты атрымліваюць усё новыя і новыя падказкі, як абхітрыць Бабу Ягу, як трапіць у замак да Каралевы, як перамагчы гэтую магутную ўладарку.




Па сутнасці, калі б заданне атрымаў толькі адзін з братоў, то можна было б з упэўненасцю сцвярджаць, што ён не справіцца з выпрабаваннем. Бо толькі разам, спалучаючы моцныя бакі характару, яны дасягаюць поспеху. Так, старэйшы брат больш стрыманы, мудры і разважлівы. Ён мае выдатную памяць і хутка запамінае дэталі. Малодшы — эмацыянальны, спрытны. Не баіцца ўзлезці на высокае дрэва, смела рызыкуе і перамагае, бо ведае, што старэйшы брат заўсёды падтрымае ў выпадку няўдачы.

Адметна, што Наталля Ігнаценка не дае героям імёнаў, пераўтвараючы іх амаль у маскі. Але гэта ўдалае рашэнне, бо як бы ні клікалі братоў, яны ўсё роўна дапамагалі б адно аднаму. Выпрабаванне, што выпадае на лёс герояў у гэтым чароўным свеце, не толькі ў непасрэдным выкананні задання, але і ў спробе прайсці перашкоды разам, не пасварыцца, у згодзе зрабіць справу, карысную для ўсіх. І гэта ў братоў атрымліваецца выдатна!

Вось і цуд! Дакладней, простая жыццёвая ісціна. Як яе найлепш патлумачыць тым братам, якія сварацца ды б'юцца? Толькі пры дапамозе казкі!

**Марына ВЕСЯЛУХА**







**Чытальная зала**

# Кожны дзень з вершам

**Пісьменніцы, паэтцы, крытыку Таццяне Мушынскай падпарадкоўваюцца, здаецца, усе літаратурныя і журналісцкія жанры. Доказ таму — больш як паўтара дзясятка кніг для рознай аўдыторыі: ад заўзятых тэатралаў, прыхільнікаў класічнага мастацтва да самых маленькіх чытачоў, якія толькі пачынаюць знаёмства з літаратурай.**

На яе вершы выконваюць рамансы, яе прозай для жанчын захапляюцца самыя дасведчаныя літаратуразнаўцы, ды і дзіцячыя вершы і апавяданні Таццяны Мушынскай адразу ж падкупляюць лёгкасцю інтанацый, яркасцю вобразаў і лёгкасцю радка.

Таму, думаецца, выдатным падарункам для дзетак і іх бацькоў стане новая кніга Таццяны Міхайлаўны «Хто ў лесе самы смелы?», што не так даўно пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

У гэтым выданні можна знайсці верш да кожнай пары года, часу дня, надвор'я, настрою. Здаецца, што на напісанне дзіцячага твора аўтарцы патрэбна толькі на хвілінку прыпыніцца, задумацца — і верш ужо гатовы! Лёгкі, светлы, душэўны. Ён прымусіць чытача супыніць бег, забыцца на штодзённыя клопаты, а таксама… здзівіцца.




Здзіўленне і радасць, уменне бачыць нечаканае ў звычайным — вось амаль абавязковыя рысы дзіцячых вершаў з новай кнігі Таццяны Мушынскай. Не верыце? Для прыкладу — верш «Кастрычнік»:

*Дождж у лесе. Лесавік*
*Апрануў плашч-дажджавік.*
*Бо за лета лесавік*
*Вельмі да цяпла прывык.*
*Што вадзяніку надзець,*
*Каб у рэчцы не скалець?*

Так, цяпло не вернецца — суперажываем беднаму вадзяніку, ды ўсё ж радуемся, што самі можам сагрэцца, схавацца ад дажджу ў цёплай хаце ці кватэры.

Магчыма, дарослы чытач не будзе так разважаць над кожным творам, якіх у новай кнізе больш сотні, але пагутарыць пра іх з дзецьмі — вынік выдатны, варыянт!

Вершаў для такога супольнага разважання-абмеркавання хопіць амаль на ўсю зіму, і, думаецца, многія з іх дзеткі з задавальненнем вывучаць. Яны, дарэчы, запамінаюцца вельмі лёгка…

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Навінкі кнігавыдання

### Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура

**Большая энциклопедия дошкольника.** — Минск: Харвест, 2014. — 258 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3631-0 (в пер.).

**Веселые тени своими руками:** более 30 теней: [детская развивающая книга]. — Минск: Попурри, 2014. — 32 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-2504-7.

**Гусев, С. В.** Мир знаний – Интернет / С. В. Гусев, А. Э. Плетнев, А. Г. Сугакевич. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2015. — 47 с. — 42300 экз. — ISBN 978-985-557-079-1.

**Живая природа:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 66 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3608-2 (в пер.).

**Животные:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 34 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3614-3 (в пер.).

**Земля:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 34 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3617-4 (в пер.).

**Земля — планета людей:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 66 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3609-9 (в пер.).

**Кошки:** [для младшего школьного возраста / составитель Т. И. Жуковская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2015. — 32 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0828-8.

**Мороз, Г. К.** Правила эти — помните, дети!: для детей дошкольного возраста: [о пожарной безопасности] / Г. К. Мороз, С. Ю. Филипенко. — 4-е изд. — Мозырь : Белый Ветер, 2015. — 8 с. — 613 экз. — ISBN 978-985-574-157-3.

**Моя первая энциклопедия: для девочек:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 130 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3629-7 (в пер.).

**Моя первая энциклопедия: для мальчиков:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 130 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3630-3 (в пер.).

**Раскраска для мальчиков.** Машины. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2015. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-578-011-4.

**Растения:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 34 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3615-0 (в пер.).

**Свистунова, В. Н.** Экоград — город без отходов: книга для детей и их родителей / В. Н. Свистунова; Минский городской комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды. — Минск: Альтиора — Живые Краски, 2015. — 36 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-7073-63-4.

**Селедкова, А. И.** Что? Зачем? Почему? Для девочек: все о красоте, стиле и секретах общения: [для младшего и среднего школьного возраста / Селедкова Анна Ивановна, Цеханский Сергей Петрович]. — Минск: Харвест, 2014. — 255 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-16-8796-7 (в пер.).

**Тени животных своими руками:** более 30 теней: [детская развивающая книга]. — Минск: Попурри, 2014. — 32 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-2503-0.

**Цеханский, С. П.** Что? Зачем? Почему? Для мальчиков: [для младшего и среднего школьного возраста / Цеханский Сергей Петрович]. — Минск: Харвест, 2014. — 239 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-16-9380-7 (в пер.).

**Человек:** [для дошкольного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 34 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-3616-7 (в пер.).

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

#### Нямецкая літаратура




***Люшэр, Ё. Вясна барбараў: навела / Ёнас Люшэр; пераклад з нямецкай Ірыны Герасімовіч. — Мінск: А. А. Калоша, 2014. — 118 с. — Частка тэксту на англійскай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90307-2-7.***

*Гэтая кніга сталася для аўтара, вядомага швейцарскага пісьменніка Ёнаса Люшэра, своеасаблівым эксперыментам. Так, паводле задумкі, ён мусіў напісаць класічную навелу ў адпаведнасці з усімі законамі жанру. Таму ў творы мусіць прысутнічаць пэўны пераломны момант, які цалкам змяняе ўвесь сюжэт. Другая ідэя Ёнаса — напісаць кнігу, галоўным героем якой стаў бы чалавек, які не дзейнічае. Важнае значэнне ад пачатку мела і тэма — фінансавыя рынкі, эканамічны крызіс. Эксперымент прайшоў удала, і сёння мы можам прачытаць цікавую навелу пра чалавека, які не дзейнічае, а пераломным момантам у расповедзе стаў крах фінансавай сістэмы брытанскага ўзору.*

#### Французская літаратура

**Каррер, Э.** Жизни, не похожие на мою = *D'autres vies que la mienne* / Эммануэль Каррер; перевод с французского [Г. Л. Холявского]. — Минск: Макбел, 2015. — 213 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6347-88-0 (в пер.).

#### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Баран, С.** Взгляд: стихотворения, проза / Сергей Баран. — Минск: Медисонт, 2014. — 135 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-7085-62-0.

**Бобко-Алешкевич, В. В.** С чистого листа: [сборник стихов] / Валентина Бобко-Алешкевич. — Минск: Ковчег, 2015. — 178 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7121-10-6 (в пер.).

**Богомолова, З. Е.** Из глубины души: стихотворения / Зинаида Богомолова. — Минск: Кнігазбор, 2015. — 123 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7119-23-3.

**Булова, Е. С.** Тусовка в стиле ретро (ТСР): Очерки. Рассказы / Евгений Булова; [фото Сергея Лосихина и др.]. — Могилев: Информационное агентство «Могилевские ведомости», 2015. — 195 с. — Фото также: Булова Е., Курашевич Р., Лусто М., Титов В. — 60 экз. — ISBN 978-985-90326-6-0 (в пер.).

**Гнездилова, О. Н.** В ладонях бабочку держу...: сборник стихов / Ольга Гнездилова. — Минск: Медисонт, 2015. — 301 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-7085-68-2 (в пер.).

**999 тостов, поздравлений, пожеланий свадебных, шуточных и в день рождения** / [автор-составитель Н. В. Белов]. — Минск: Харвест, 2015. — 319 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3642-6 (в пер.).

**Калиновская, Н. К.** Пусть в жизни будет много счастья: сборник стихов / Нина Калиновская. — Гродно: Гродненская типография, 2015. — 227 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7037-20-9.

**Ковалевич, М. А.** Отпустите сердце в небо: стихотворения / М. А. Ковалевич. — Брест: Брестская типография, 2014. — 241 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1500 экз. — ISBN 978-985-524-188-2.

**Колесников, О. П.** Размышления о жизни: [мысли вслух...]: сборник стихов / Олег Колесников. — Гродно: Гродненская типография, 2015. — 115 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7037-21-6.

**Крыжановский, Е. А.** Самая смешная книжка: (анекдоты, байки, приколы) / Евгений Крыжановский. — Минск: Макбел, 2015. — 147 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-6347-90-3 (в пер.).

**Кудрявцева, Т. И.** Как странно не совпали даты: Повесть. Рассказ / Татьяна Кудрявцева. — Гомель: Барк, 2015. — 91 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7065-31-8 (в пер.).

**Литературный объектифф:** литературный альманах / Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет, Историко-филологический факультет; [редколлегия: А. И. Мозго (отв. редактор), Д. А. Лабовкин, С. В. Гочаков]. — Новополоцк: ПГУ, 2014. — Основан в 2014 г.

Вып. 3. — 2015. — 72 с. — Часть текста на английском, белорусском и немецком языках. — 99 экз. — ISBN 978-985-531-480-7.

**Литусев, А. Ю.** Охрипшая нежность: стихи / Александр Литусев. — Минск: Медисонт, 2015. — 103 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7085-61-3 (в пер.).

**Моссэ, Е. П.** Двоичный код: стихи / Екатерина Моссэ. — Минск: Четыре четверти, 2015. — 84 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7103-34-8.

**Наместников, Н. В.** Время яблок: стихи / Николай Наместников. — Минск: Четыре четверти, 2015. — 127 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-37-9 (в пер.).

**Перепелица, К. И.** Мыс забытых людей: роман / Перепелица К. И. — Брест: Брестская типография, 2015. — 272 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-524-193-6 (в пер.).

**Трахименок, С. А.** Парадоксы граней, или Грани парадоксов: шарж / Сергей Трахименок. — Минск: Ковчег, 2015. — 164 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-13-7.

**Трахименок, С. А.** Повести разных лет: роман, повести / Сергей Трахименок. — Минск: Мастацкая літаратура, 2015. — 508 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-02-1641-0 (в пер.).

**Фоменкова, И. В.** Смех для всех: рассказы / Ирина Фоменкова; [редколлегия: Н. В. Шабович и др.]. — Минск: Четыре четверти, 2014. — 94 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-21-8.

**Шевченко, С. С.** Парение: поэтический сборник / Сергей Шевченко. — Минск: Ковчег, 2015. — 143 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7121-19-9.

**Щеглова, Л.** Брачный контракт / Лия Щеглова. — Минск: Букмастер, 2015. — 349 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-917-7 (в пер.).

#### Беларуская літаратура

**Бабаед, А.** Каля чыстых крыніц: вершы / Алесь Бабаед. — Мінск: Кнігазбор, 2014. — 67 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7119-25-7.

**Бабко-Аляшкевіч, В. В.** Народжаны сэрцам напеў: [зборнік вершаў] / Валянціна Бабко-Аляшкевіч. — Мінск: Ковчег, 2015. — 112 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7121-22-9 (у пер.).

**Бойка, В. А.** Без віны пакараныя: гістарычная аповесць у 2 кн. / Бойка В. А. — Гродна: Гродзенская друкарня, 2014. — 178 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-7037-19-3.

**Бондар, Т. М.** Спрадвечныя сцежкі: зборнік паэзіі / Таіса Бондар; [укладальнік Алена Толкач]. — Мінск: Звязда, 2015. — 302 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-575-023-0 (у пер.).

**Гарановіч, В. Р.** Пагавары са мной...: памяці Віталя Гарановіча / [укладанне: Лілія Гарановіч]. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 295 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7119-24-0 (у пер.).

**Жукоўскі, А. М.** Напрамак жыцця: нататкі педагога, вершы, гумарэскі, песні / Аляксандр Жукоўскі. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2014. — 135 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-24-9.

**Зэкаў, А. М.** Тары-бары: літаратурныя пародыі / Анатоль Зэкаў; [рэдкалегія: М. В. Шабовіч і інш.]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 156 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7103-36-2.

**Ліхадзіеўская, А. А.** Мне так патрэбна шчасце для цябе: зборнік паэзіі / Алена Ліхадзіеўская. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 159 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7119-20-2 (у пер.).

**Люблю цябе, мая старонка:** зборнік вершаў: да 75-годдзя з дня ўтварэння Ваўкавыскага раёна і 1010-годдзя горада Ваўкавыска / [складальнік: В. М. Курылік; рэдкалегія: В. М. Курылік, Т. Я. Гурына, Н. М. Мазалевіч]. — Гродна: Гродзенская друкарня, 2015. — 255 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7037-18-6 (у пер.).

**Марціновіч, А.** Цяпло колішніх вогнішчаў: гістарычныя апавяданні, эсэ / Алесь Марціновіч. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2015. — 606 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0834-9 (у пер.).

**Мацюхіна, Т. Б.** Адчуць гармонію душы: вершы / Таццяна Мацюхіна; [рэдакцыйны савет: Міхась Пазнякоў і інш.; прадмова М. Тычыны]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2015. — 63 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-7103-39-3.

**Плотка, А. А.** Байсан: вершы / Алесь Плотка. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 95 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7119-27-1 (у пер.).

**Пятровіч, Б.** Пуціна: аповесці / Барыс Пятровіч. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 198 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7119-21-9.

**Радзіма. Адзінства. Перамога:** [зборнік]: да 70-годдзя Вялікай Перамогі / Саюз пісьменнікаў Беларусі, Мінскае абласное аддзяленне; [укладальнік Барыс Даўгатовіч; прадмова Алеся Карлюкевіча]. — Мінск: Звязда, 2015. — 285 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-575-001-8 (у пер.).

**Цанунін, У. Я.** Пушчанскія галасы: зборнік вершаў / Уладзімір Цанунін. — Мінск: Ковчег, 2015. — 66 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7121-16-8.

**Шамецька, Ю. Д.** Атава: вершы / Юрась Шамецька. — Мінск: Кнігазбор, 2015. — 127 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7119-18-9.

#### Літаратура на ўрала-алтайскіх мовах

**Келімбетаў, Н.** Лісты да сына: эсэ / Немат Келімбетаў; [пераклад з казахскай мовы Г. П. Аўласенкі, А. М. Карлюкевіча]. — Мінск: Звязда, 2015. — 285 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-575-024-7 (у пер.).

#### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Волчий хлеб:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0900-3.

**Дедушкины сказки** / [составление и литературная обработка сказок Сергея Кузьмина; иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 47 с. — 3530 экз. — ISBN 978-985-17-0893-8 (в пер.).




***Багушэвіч, Ф. Выбраныя творы / Францішак Багушэвіч; [укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай, прадмова і каментар Язэпа Янушкевіча]. — Мінск: Беларуская навука, 2015. — 445 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-08-1825-6 (у пер.).***

*Семдзесят дзявяты том праекта «Беларускі кнігазбор» склалі вершы, апавяданні, публіцыстычныя артыкулы, лісты аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры, выдатнага творцы Францішка Багушэвіча. Адметна, што пад вокладкай гэтага выдання змясціліся яго кнігі паэзіі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» (цалкам), а ў дадатку, падрыхтаваным укладальнікам кнігі Язэпам Янушкевічам, можна пазнаёміцца з асноўнымі момантамі жыцця і творчасці паэта.*

**Зайкины сказки** / [составление и литературная обработка сказок Сергея Кузьмина; иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 47 с. — 3530 экз. — ISBN 978-985-17-0892-1 (в пер.).

**Золотые русские сказки:** [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Харвест, 2014. — 175 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-16-9643-3 (в пер.).

**Как Лиса себя перехитрила:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0897-6.

**Кто сильнее всех:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0901-0.

**Курочка-работница:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0902-7.

**Лисичкины сказки** / [составление и литературная обработка сказок Сергея Кузьмина; иллюстрации Виктора Чайчука, Александра Ткачука и Владимира Пустовалова]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 47 с. — 3530 экз. — ISBN 978-985-17-0894-5 (в пер.).

**Лягушка и Муравей:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0896-9.

**Медведь и Лисица:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0899-0.

**Мышка-трусишка:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0903-4.




***Мир приключений и фантастики: [сборник произведений классиков мировой литературы: для среднего школьного возраста]. — Минск: Беларусь, 2015 — Ч. 1. — 2015. — 430 с. — Из содержания: Принц и нищий: роман / Марк Твен. Тим Талер, или Проданный смех: повесть / Джеймс Крюс. — 39 000 экз. — ISBN 978-985-01-1126-5 (в пер.).***

*Серыйныя выданні падобнага кшталту выконваюць вельмі важную задачу. Загадкавымі назвамі і прыгожымі вокладкамі яны прыцягваюць увагу маладых чытачоў, спрыяюць павышэнню іх цікавасці да кожнай кнігі ў прыватнасці і мастацкай літаратуры ў цэлым. Так, першая частка праекта «Свет прыгодаў і фантастыкі» знаёміць вучняў сярэдняга школьнага ўзросту з двума класічнымі творамі — раманам Марка Твена і аповесцю Джэймса Круса. Іх сюжэты вельмі добра знаёмыя дарослым чытачам, аднак для дзяцей, якія толькі пачынаюць вандроўку ў вялікі свет літаратуры, — праваднікі ў свет прыгод. Таму могуць стаць выдатным стымулам для новых падарожжаў па кніжных сюжэтах і знаёмства з героямі іншых раманаў і аповесцей.*

**Мышкины сказки:** [составление и литературная обработка сказок Сергея Кузьмина; иллюстрации Виктора Чайчука, Александра Ткачука и Владимира Пустовалова]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 47 с. — 3530 экз. — ISBN 978-985-17-0895-2 (в пер.).

**Петя-Петушок:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Владимир и Ирина Пустоваловы]. — Минск: Книжный Дом, 2015. — 10 с. — 5030 экз. — ISBN 978-985-17-0898-3.

**Русские народные сказки:** [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2015. — 253 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7101-10-8 (в пер.).

**Слабашпіцкі, М.** Ці далёка да Афрыкі?: казкі: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Міхайла Слабашпіцкі; пераклад з украінскай [Алеся Карлюкевіча; мастак Алена Лось]. — Мінск: Звязда, 2015. — 78 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-575-021-6 (у пер.).

#### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Атрушкевич, А. М.** Мой край родной, мой мілы кут: (стихи для детей) / Александр Атрушкевич. — Мозырь: Колор, 2014. — 29 с. — 180 экз. — ISBN 978-985-6830-65-8.

**Белькова, А. А.** Палитра звука = Палітра гуку: стихи для детей / Алла Белькова. — Минск: Кнігазбор, 2015. — 79 с. — Текст параллельно на русском и белорусском языках. — 315 экз. — ISBN 978-985-7119-14-1 (в пер.).

**Ветошкин, В. Л.** Непоседа: стихи для детей / Валерий Ветошкин. — Мозырь: Колор, 2014. — 52 с. — 140 экз. — ISBN 978-985-6830-63-4.

**Голубева, Н. А.** Забытые тайны, или Меч Диамида: [повесть] / Наталья Голубева. — Минск: Харвест, 2015. — 126 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3587-0 (в пер.).

**Капли росы:** рассказы для детей / [составитель Н. С. Оскирко]. — Минск: Ковчег спасения, 2015. — 253 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6832-09-6 (в пер.).

**Куличенко, В. В.** Волшебные очки тетушки Амалии: [для среднего школьного возраста] / Владимир Куличенко. — Минск: Беларусь, 2015. — 254 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-01-1123-4 (в пер.).

**Лэсик, Э.** Книга Счастья I от волшебника кота: [стихи для младшего школьного возраста] / Элеонора Лэсик; [художник И. С. Ярмолик]. — Минск: Зорны Верасок, 2014. — 78 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-7068-32-6.

**Максименко, Ю. И.** СнегоВитек – мой друг: истории и сказки для детей и не только / Юрий Максименко; художник Мария Тульженкова. — Гомель: Барк, 2014. — 66 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7065-26-4 (в пер.).

**Поздняков, М. П.** Черные аисты: сказки: для детей младшего школьного возраста / Михаил Поздняков. — Минск: Народная асвета, 2015. — 55 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-03-2334-7.

**Ткач, В. А.** Стихи для детей, которые учат / Ткач Виталий; [иллюстрации автора]. — Минск: Альтиора — Живые Краски, 2014. — 39 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7073-60-3.

#### Беларуская літаратура

**Бык і ваўкі:** беларуская народная казка / [ілюстрацыі Глеба Цімохава]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 12 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1650-2.

**Галубовіч, Я.** Шчодрая вавёрка: казкі: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Янка Галубовіч; [мастак Юлія Пякіна]. — Мінск: Звязда, 2015. — 91 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-575-018-6 (у пер.).

**Крапіва, К.** Брама неўміручасці: камедыі / Кандрат Крапіва. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 125 с. — 33000 экз. — ISBN 978-985-02-1649-6 (у пер.).

**Ліпскі, У. С.** Мілаградскі конік: [аповесці] / Уладзімір Ліпскі. — Мінск: Харвест, 2015. — 191 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-18-3588-7 (у пер.).

**Родныя словы:** вершы і паэмы: [для старэйшага школьнага ўзросту / складальнік Т. Ф. Рослік]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2015. — 182 с. — 30290 экз. — ISBN 978-985-11-0837-0 (у пер.).

### Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры

**Поваляева, Н. С.** Образ мюзик-холла в неовикторианском романе / Н. С. Поваляева. — Минск: Четыре четверти, 2015. — 97 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7103-27-0.

**Сержанов, Г. А.** «И ненавидим мы, и любим мы случайно...»: жизнь и творчество М. Ю. Лермонтова / Г. А. Сержанов. — Минск: Ковчег, 2014. — 250 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7086-96-2.

**Современная зарубежная литература: проблемы жанра, нарратива, героя:** сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Минский государственный лингвистический университет; [редколлегия: Ю. В. Стулов (отв. редактор) и др.]. — Минск: МГЛУ, 2015. — 271 с. — Часть текста на английском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-460-623-1.

**Тесты для тематического контроля по русской литературе:** 5-й класс: практикум для учащихся учреждений общего среднего образования / [составитель А. Л. Никитина]. — 4-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2015. — 51 с. — 213 экз. — ISBN 978-985-574-086-6.

**Христианский гуманизм и его традиции в славянской культуре:** сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины; [редколлегия: Т. Н. Усольцева (главный редактор), И. Н. Афанасьев, Н. В. Суслова]. — Гомель: ГГУ, 2009. — Основан в 2009 г. — ISSN 2223-1579.

Вып. 9. — 2014. — 153 с. — Часть текста на белорусском языке. — 45 экз.

**Шатыренок, И. С.** Литерное слово: [литературная критика, рецензии, комментарии, эссе, публицистика: сборник критических заметок о состоянии современной литературы] / Ирина Шатыренок. — Минск: Регистр, 2015. — 211 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-7097-14-2.

#### Беларуская літаратура

**Арцем'еў, В. І.** Шчодрасць душы: [зборнік] / Віктар Арцем'еў. — Магілёў: АмелияПринт, 2015. — 147 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6891-37-6.

**Беларуская літаратура:** пазакласнае чытанне: 2–4-я класы: для агульнаадукацыйных устаноў з рускай мовай навучання / [укладальнік Л. І. Строк]. — Мінск: ЮниПрессМаркет, 2015. — 383 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-560-964-4 (у пер.).

**Брадзіхіна, А. В.** 90-60-90: (сучасны літаратурны працэс: на шляху да ідэалу): зборнік навукова-крытычных артыкулаў / А. В. Брадзіхіна; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны. — Гомель: ГДУ, 2014. — 198 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-439-931-7.

**Загурская, А. Л.** Літаратурнае чытанне: рабочы сшытак: 3-ці клас устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / А. Л. Загурская, Т. А. Няборская. — 2-е выд. — Мінск: Пачатковая школа, 2015. — 111 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-565-151-3.

**Несцяровіч, С. У.** Кантроль ведаў па беларускай літаратуры (літаратурныя дыктанты): 10-ты клас: (2-е паўгоддзе): практыкум для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі / С. У. Несцяровіч. — 3-е выд. — Мазыр: Белы Вецер, 2015. — 67 с. — 313 экз. — ISBN 978-985-574-172-6.

**Спадчына І. Я. Навуменкі і актуальныя праблемы літаратуразнаўства:** зборнік навуковых артыкулаў / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Францыска Скарыны ... — Гомель: ГДУ, 2012. — Заснаваны ў 2012 г.

Вып. 2 / [рэдкалегія: І. Ф. Штэйнер (гал. рэд.), А. М. Мельнікава, А. У. Андрэева]. — 2014. — 315 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-439-942-3.

# «Святыя дзяды, прыходзьце да нас»

**Нашы продкі верылі, што на Дзяды душы памерлых сваякоў могуць прыйсці ў свет жывых, пагрукацца ў шыбу, нават завітаць у родную хату, каб пабачыць блізкіх і пачаставацца святочнымі стравамі. Таму і прынята пасля вячэры пакідаць ежу на стале, ставіць талерку і чарку для продкаў, карміць птушак і жывёл, бо ў іх целы могуць усяліцца душы продкаў. У вечар на Дзяды прынята ўспамінаць сваякоў, якія пайшлі з жыцця.**
**Яшчэ больш даведацца пра гэтае старажытнае свята можна было ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Тут, у атмасферы старых сялянскіх хат, з розных рэгіёнаў Беларусі супрацоўнікі ўстановы зладзілі шырокую праграму «Дзяды. Ушанаванне продкаў», якая ўключала прагляд дакументальнага фільма пра свята, распаведы пра традыцыі святкавання Дзядоў, спектакль-інсталяцыю «Святочная вячэра» і прадстаўленне сапраўднага архіва сялянскай сям'і, чыя хата сёння знаходзіцца на тэрыторыі музея.**



*Аляксандр Ісакаў знаёміць з архівам сялянскай сям'і са Стаўбцоўшчыны.*

## ГІСТОРЫЯ Ў ДАКУМЕНТАХ

Пра жыццё сялянскай сям'і ў Беларусі могуць распавесці хаты і гаспадарчыя пабудовы, прылады працы. Але яшчэ больш даведацца пра іншыя аспекты існавання селяніна дапамогуць дакументы. Так, у музеі народнай архітэктуры і побыту быў упершыню прадэманстраваны сямейны архіў, які вярнуўся ў родную хату, што калісьці стаяла ў вёсцы Заброддзе Стаўбцоўскага раёна.

— Сёлета памерла апошняя ўладальніца гэтага дома спадарыня Гелена, пасля яе засталіся рэчы, — распавядае намеснік дырэктара музея па навуковай рабоце Аляксандр Ісакаў. — Гэта сялянскі архіў, што змяшчае дакументы канца XIX стагоддзя — 1930-х гадоў. Перад намі — дакументальна пацверджаная гісторыя адной сям'і. Архіў спадарыні Гелены складаецца больш як з чатырох дзясяткаў дакументаў. Самыя старыя з іх — судовыя справы. Гэтыя сяляне былі досыць заможныя, значыць, мелі што дзяліць і за што судзіцца.

> *Існуе меркаванне, што да рэвалюцыі сялянскія сем'і жылі вельмі бедна. Але дакументы з архіва спадарыні Гелены абвяргаюць гэтую думку. Тут ёсць зберагальныя кніжкі Паштовай тэлеграфнай дзяржаўнай зберагальнай касы. І можна пабачыць, якія сумы былі на рахунку ў сялян са Стаўбцоўшчыны.*

Вось напісаны прыгожым почыркам дакумент, які распавядае: суд вырашыў, што скарга, пададзеная ўладальнікамі сядзібы, неправамоцная, і адмовіў у разглядзенні пытання. Ёсць тут і позвы: за пчол, за знос хлява. Спадар Аляксандр мяркуе, што прычынай для звароту ў суд маглі стаць канфлікты з суседзямі. 1919 годам датаваны вельмі цікавы дакумент — пасведчанне дазволу на продаж каня. Такія паперы ўявіліся ў зварот ужо пасля рэвалюцыі 1917 года. Па сямейным архіве можна прасачыць важныя падзеі, нават трагедыі ўладальнікаў дома. Так, Аляксандр Ісакаў зазначае:

— Сям'я валодала вельмі вялікай сядзібай, якая складаецца з чатырох пабудоў — хаты, хлява, гумна, клеці. У той час стрэхі былі саламяныя, значыць, частай праблемай станавіліся пажары. Таму ўжо ў 1920 — 30-я гады гаспадары сядзібы афармлялі страхоўкі. Гэта пацвярджаецца адпаведнымі дакументамі з архіва. Банк ацэньваў кошт пабудовы і, калі нешта здаралася, выплачваў грошы за пашкоджанне. Цяпер мы ведаем, што аднойчы так і адбылося: маем дакумент звароту з просьбай выплаціць страхоўку, бо адна з пабудоў згарэла.

Існуе меркаванне, што да рэвалюцыі сялянскія сем'і жылі вельмі бедна. Але дакументы з архіва спадарыні Гелены абвяргаюць гэтую думку. Тут ёсць зберагальныя кніжкі Паштовай тэлеграфнай дзяржаўнай зберагальнай касы. І можна пабачыць, якія сумы былі на рахунку ў сялян са Стаўбцоўшчыны. Першая кніжка на 140 царскіх рублёў, другая — болей як на тысячу. Гэта вельмі вялікія грошы. Ёсць і цікавыя рэкламныя буклеты вядомай фірмы, якая прапаноўвала тэхніку, ровары. Нашы людзі маглі па пошце іх выпісваць. Цэны ў буклеце досыць высокія, але можна сцвярджаць, што сяляне карысталіся паслугамі гэтай арганізацыі: у каталогу некаторыя лісткі адсутнічаюць, значыць, іх адаслалі па пошце, каб узамен атрымаць тавар.

Захаваўся і вучнёўскі падручнік, выдадзены за польскім часам. Гэтая кніга дапамагала вучыцца чытаць, лічыць, змяшчае і тэксты для чытання — павучальныя гісторыі для дзяцей.

Але не толькі дакументы вярнуліся ў сцены роднай хаты. Сваякі спадарыні Гелены сёлета перадалі ў музей чатыры абразы, датаваныя канцом XIX — пачаткам XX ст. Гэта выявы Маці Божай Вастрабрамскай, святога Францішка, святой Ганны, абраз «Сем сакрамантаў».

— Архіў перадаваўся ў наш музей у некалькі этапаў. Цягам дзесяцігоддзя мы працавалі з гэтай сям'ёй, — распавядае Аляксандр Ісакаў. — Гаспадары не маглі адразу аддаць усё, але пасля смерці спадарыні Гелены вырашылі, што гэтыя рэчы павінны захоўвацца ў музеі, бо з'яўляюцца не толькі каштоўнасцю сям'і, але могуць стаць цікавымі і карыснымі для многіх беларусаў.

Адметна, што матэрыялы архіва не размешчаны за шклом. Дакументы можна браць у рукі, гартаць, разглядаць надпісы праз павелічальнае шкло. Натуральна, наведвальнікам прапануюць папрацаваць з надзвычай якаснымі копіямі, а самі арыгіналы дакументаў захоўваюцца ў фондах музея. У музей можна прыносіць і свае сямейныя фотаздымкі, дакументы з архіва, каб іх вывучалі спецыялісты і захоўвалі для наступных пакаленняў.



*Гасцей свята вітае гурт «Жвавы карчмар».*

## КЛЁЦКІ «З ДУШАМІ» І БЕЗ

Калі знаёмства з сямейным архівам спадарыні Гелены дапамагала ўзгадаць падзеі з жыцця і ўласнай сям'і, то спектакль-інсталяцыя «Святочная вячэра» ад фальклорнага тэатра «Варгін» дазволіў наведвальнікам музея народнай архітэктуры і побыту акунуцца ў атмасферу гэтага містычнага свята. Толькі ўявіце: інсталяцыя адбывалася ў інтэр'еры сялянскай хаты, а ў аснову сцэнарыя пакладзеныя старадаўнія звычаі беларусаў. Ля хаты гасцей віталі музыкі з гурта «Жвавы карчмар», якія выконвалі традыцыйныя мелодыі на дудах, барабане і бубне.

У міні-спектаклі вытрымліваліся ўсе асноўныя правілы святкавання: стравы на стале, гутаркі за вячэрай, абрад частавання птушак, нават варажба.

> *1919 годам датаваны вельмі цікавы дакумент — пасведчанне дазволу на продаж каня. Такія паперы ўявіліся ў зварот ужо пасля рэвалюцыі 1917 года.*

— Сцэнарый спектакля грунтуецца ў асноўным на матэрыялах з фільмаў «Радавод: стравы на Дзяды» і «Беларускі народны каляндар: Дзяды», акрамя гэтага — на ўспамінах нашых бабуль і дзядуль, — распавёў малодшы навуковы супрацоўнік музея, даследчык святкавання Дзядоў Мікіта Халькоў. — Спецыяльна для інсталяцыі мы прыгатавалі посную куццю, — з яе пачыналі вячэру — капусту, хлеб і посныя блінцы, ячню, клёцкі з цыбуляй. Можна было гатаваць і клёцкі «з душамі» — кавалачкамі каўбасы ці фаршу.

Так, паводле традыцыі, вячэра пачыналася з запальвання свечкі і малітвы. Галоўную ролю выконваў бацька, ён «кіраваў размовай» за ежай, узгадваў памерлых продкаў, сачыў за выкананнем усіх правілаў — каб стравы для продкаў засталіся на стале, птушкі былі пачаставаныя і талерка разбітая.

— Біць той посуд, у які клалі ежу для Дзядоў, неабавязкова, але некаторыя так рабілі, — зазначыў Мікіта. — Звычайна разбівалі посуд, у якім насілі ежу на могілкі, а паколькі ў прасторах музея гэта прадэманстраваць было немагчыма, мы білі талеркі пасля таго, як накармілі птушак і жывёл ежай для продкаў.

Ці можна варажыць на Дзяды? Вельмі спрэчнае пытанне, аднак, па словах бабуль, традыцыя гэта дазваляе. Дзеўкі маглі варажыць на хлебе. Адна з іх адломвала ад бохана кавалак скарынкі і кавалак мякішу, другая хавала кавалачкі хлеба ў руках. Першая задумвала пытанне, напрыклад, ці пойдзе яна сёлета замуж, і выбірала руку са схаваным хлебам. Калі ў кулаку апынаўся зацінуты мякіш — адказ на пытанне станоўчы, калі скарынка — адмоўны.

А ці можна на Дзяды жартаваць, танцаваць і смяяцца? Мікіта Халькоў сцвярджае, што можна:

— Гумарыстычная элементы на памінальнай вячэры, нават смех характэрныя для многіх народаў свету, у тым ліку беларусаў. Можна ўзгадаць вясёлыя моманты з жыцця памерлых продкаў, успамінаць смешныя выпадкі сямейная гісторыі. Гэта спосаб паказаць памерлым продкам, што жыццё працягваецца, але памяць пра іх жывая. Натуральна, жартаваць варта асцярожна, не губляючы павагі да дзядоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**



*Інсталяцыя «Святочная вячэра» ў выкананні фальклорнага тэатра «Варгін».*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# «Маленькі прынц»

## Вялікая прэм’ера!

Балет «Маленькі прынц» напісаны выдатным беларускім кампазітарам, народным артыстам СССР Яўгенам Глебавым у 1981 годзе. І ўжо ў 1982-м у Хельсінкі адбылася яго сусветная прэм'ера, пастаноўку ажыццявіла вядомы харэограф, знакамітая актрыса і прыма-балерына Фінскага нацыянальнага балета Эльза Сюльвестэрсон. У 1983-м балет «Маленькі прынц» быў пастаўлены Генрыхам Маёравым у Маскве ў Вялікім тэатры СССР. Галоўныя партыі выканалі Ніна Ананіяшвілі і Аляксей Фадзеечаў. Далей былі пастаноўкі ў Ніжнім Ноўгарадзе, Самары. І вось у 2015-м — першае з’яўленне «Маленькага прынца» на роднай сцэне.

Пастаноўшчыкі новага спектакля — дырыжор Алег Лясун, харэограф Аляксандра Ціхамірава (балетмайстар-пастаноўшчык спектакля «Шчаўкунок, або Яшчэ адна Калядная гісторыя»). Сцэнаграфія належыць Вячаславу Окуневу, культаваму расійскаму мастаку, які ажыццявіў больш як 400 пастановак у розных тэатрах свету. Некаторыя элементы сцэнаграфіі выкарыстаны ўпершыню і адрозніваюцца ад усяго бачанага раней на сцэне беларускага тэатра оперы і балета.

— Для перапрацоўкі лібрэта мы звярнуліся з прапановай аб супрацоўніцтве да Ларысы Васільеўны Глебавай — удавы кампазітара, якая як ніхто ведае творчасць і асобу Яўгена Аляксандравіча. І тое, што яна пагадзілася працаваць разам, — сапраўдны падарунак, — адзначыла харэограф-пастаноўшчык Аляксандра Ціхамірава. — У балеце няма пераказвання сюжэта аповесці Антуана дэ Сэнт-Экзюперы — гэта было б цяжка і нецікава! Наш спектакль — новы погляд як на музыку Глебава, так і на гісторыю, расказаную пісьменнікам. Мы крыху перапрацавалі музычны матэрыял, але зрабілі гэта вельмі далікатна — не парушылі музычную драматургію, а ўзмацнілі яе музычнымі нумарамі з іншых твораў Глебава.

«Маленькі прынц» — філасофская прытча, тут няма ярка выяўленага канфлікту, барацьбы, затое шмат метафар і алегорый. Пастаноўшчыкі пастараліся знайсці схаваныя сэнсы ў сюжэце, таму не



Фота БелТА.

змаглі абысціся без звароту да асобы самога пісьменніка. Гісторыя ўзаемаадносін Прынца і Ружы — гэта гісторыя ўзаемаадносін Антуана дэ Сэнт-Экзюперы і яго жонкі Кансуэлы. Па словах харэографа Аляксандры Ціхамiравай, беларуская пастаноўка — гэта яшчэ і гісторыя чалавечай асобы, гісторыя пра тое, як захаваць у сабе чалавека — Маленькага прынца, які жыве ў кожным з нас. Усё, што звязана з палётамі ў спектаклі, рыфмуецца з палётам фантазіі чалавека-творцы, які лётае, калі мае магчымасць ствараць. Калі магчымасць знікае і свет не прымае Мастака, ён аказваецца ў тупіку, а гэта і ёсць пустыня.

Беларускі варыянт балета «Маленькі прынц» арыентаваны і на дарослых, і на дзяцей. Гэта, вядома ж, дарослая казка, але ўсё ж казка, і дзеці ў ёй знойдуць нешта сваё, зразумеюць гэтую гісторыю на сваім узроўні. Сталеючы, будуць адкрываць у балеце іншыя сэнсы.

У пастаноўцы Вялікага тэатра Беларусі занятыя некалькі саставаў салістаў і артыстаў, сярод якіх — Ігар Аношка, Ягор Азаркевіч, Алег Яромкін, Арцём Банькоўскі, Вольга Гайко, Аляксандра Чыжык, Ірына Яромкіна, Валерыя Грудзіна, Канстанцін Геронік, Такатошы Мачыяма, Антон Краўчанка і іншыя.

**Таццяна ШЫМУК**

### Даведка «ЛіМа»

Вучань аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова, Яўген Глебаў таксама стаў выдатным педагогам: спачатку выкладаў у Мінскім музычным вучылішчы, затым вёў клас кампазіцыі ў кансерваторыі і выпусціў плеяду бліскучых вучняў, сярод якіх Леанід Захлеўны, Ядвіга Паплаўская, Васіль Раінчык, Эдуард Ханок, Вячаслаў Кузняцоў, Уладзімір Кандрусевіч, Дзмітрый Даўгалёў.

Яўген Аляксандравіч ствараў і музыку для кіно (працаваў музычным рэдактарам «Беларусьфільма»): яго творы гучаць у знакамітых кінакарцінах «Вянок санетаў», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Снягурка», «Апошняе лета дзяцінства».

Творчасць знакамітага кампазітара шматгранная. Многія буйныя творы напісаныя адмыслова для Беларускага тэатра оперы і балета, ставіліся і на іншых сцэнах: «Мара» (1961), «Альпійская балада» (1967), «Выбранніца» (1969), а таксама грандыёзны «Тыль Уленшпігель» (1974), опера «Майстар і Маргарыта» (1992) па праве сталі легендарнымі і склалі асаблівую яркую старонку ў гісторыі тэатра.

*Не абмініце!*

# Пара «Лістапада»

**Сёння адкрываецца XXII Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад — 2015», у якім глядач можа браць удзел на працягу тыдня.**

— У лепшых фільмах галоўныя сэнсы хаваюцца не столькі ў рэпліках герояў, колькі ў мізансцэне кадра, гульні святла і ценю, драматургіі колеру, мантажных прыёмах. Бачыць фільм, раскрываць яго таямніцы праз выяўленчыя нюансы і дэталі, разумець сінтаксіс і пунктуацыю кінамовы і, такім чынам, пачуць мелодыю фільма — вось што такое сапраўдная асалода, — так растлумачыў задуму канцэпцыі дырэктар праграм ігравога кіно ММКФ «Лістапад» Ігар Сукманаў.



Фота з сайта www.listapad.com.

Кадр з фільма «Даліна кахання».

Форум уключае ў праграму фільмы знакамітых аўтараў і модных маладых рэжысёраў, жанравае і аўтарскае кіно, ігравыя і дакументальныя стужкі. Праграма асноўнага конкурсу ігравога кіно прадстаўляе дванаццаць фільмаў. Ацэньваць карціны будзе міжнароднае журы ў складзе пяці чалавек на чале са старшынёй — расійскім рэжысёрам Вадзімам Абдрашытавым. Асноўнай пляцоўкай конкурснага агляду традыцыйна стане кінатэатр «Цэнтральны». Гледачоў чакаюць конкурс «Маладосць на маршы», праграма дакументальнага кіно, конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік» ды інш.

XXII ММКФ «Лістапад» адкрые французская карціна з Жэрарам Дэпардзье і Ізабель Юпэр «Даліна кахання». Кінастужка была прадстаўленая рэжысёрам Гіёмам Ніклу ў асноўным конкурсе Канскага кінафестывалю (2015), у Мінску фільм пакажуць сёння — у кінатэатры «Масква».

Дарэчы, кінатэатр «Масква» ў гэтым годзе стане паўнавартаснай фестывальнай пляцоўкай. Калі на «Лістападзе — 2014» тут праходзілі толькі цырымоніі адкрыцця і закрыцця, то цяпер увесь фестывальны тыдзень будуць дэманстравацца «лістападаўскія» фільмы.

Арганізатар галоўнай кінападзеі года — Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн». Заснавальнікі — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт пры ўдзеле Белтэлерадыёкампаніі, Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», Беларускага саюза кінематаграфістаў.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# На восеньскіх вакацыях

**Філармоніі для дзяцей і юнацтва Беларускай дзяржаўнай філармоніі — 55 гадоў! Унікальны калектыў, які аб’ядноўвае высокапрафесійных спевакоў, інструменталістаў, чытальнікаў і музыказнаўцаў, не мае аналагаў на постсавецкай прасторы.**

Без малога палова творчага складу — лаўрэаты і дыпламанты шматлікіх прэстыжных міжнародных конкурсаў. Сярод іх — салісты-вакалісты, салісты-інструменталісты, канцэртмайстры, лектары-музыказнаўцы. Ёсць і стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Можна распавядаць пра многіх артыстаў, але ёсць імёны, з якімі звязана ўвасабленне галоўнай задачы Філармоніі для дзяцей і юнацтва — забаўляючы, вучыць і выхоўваць.

Музыказнаўцу Анатолю Парэцкаму належыць ідэя адкрыцця ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі «Філармоніі школьніка» — цыклаў абанементных канцэртаў для малодшых вучняў, якія далучаюць юных слухачоў да музычнай класікі. Створаныя ім праграмы па-сапраўднаму арыгінальныя і цікавыя: «Звонкаю хадою марша», «Чароўны ключык у краіну музычных ведаў», «Гайдн і Моцарт»… Гэта залаты фонд, на якім вырасла тры пакаленні гледачоў.

Музыказнаўца Міхаіл Казінік у цыклах канцэртаў з сімфанічным аркестрам для студэнтаў і маладой інтэлігенцыі раскрыў сакрэт анёльскага (боскага) і д’ябальскага — прыгожага і жудаснага — у музыцы, распавёў пра глыбіні музычнай шэкспірыяны, бязмежнай эрудыцыі А. Пушкіна, шматколернасць жанру санета. Сёння М. Казінік — аўтар папулярных кніг, дзе даследуецца жыццё і творчасць вялікіх музыкантаў (напрыклад, «Таямніцы геніяў»), выступае з канцэртамі ў розных краінах.

Пасля 2000 года ў Філармоніі для дзяцей і юнацтва захоўваліся і ствараліся адукацыйныя канцэртныя праграмы розных кірункаў: манаграфічныя («Дунаеўскі», «Глінка», «Тарывердзіеў», «Мусаргскі»); музычна-гістарычныя («Чатыры стагоддзі італьянскай оперы», «Зорныя гадзіны аперэты», «Ад Баха да Офенбаха»); жанравыя («Краіна Сімфонія»,



«Ад ламбады да вальса», «Сакрэты папулярнасці песні») ды інш. З’явіліся таксама гульнявыя канцэрты-ўрокі для вучняў малодшых класаў і спектаклі з касцюмамі, дэкарацыямі і лялькамі: «Каралеўскі бутэрброд», «Дзюймовачка», «Чырвоная Шапачка».

З прыходам у калектыў рэжысёра-пастаноўшчыка Таццяны Мажар сталі ладзіцца канцэрты-спектаклі для юнацтва, якія з поспехам праходзяць на сцэне Малой залы імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі: «Мелодыі аднаго кахання» па матывах п’есы Л. Жухавіцкага «Трубач на плошчы»; «На скрыжаванні кахання» па матывах п’есы М. Берке-Марынье «Любадорага»; «Гэтая памяць усёй зямлі патрэбна...» па матывах п’есы Р. Горына «Бывай, канферансье».

11 лістапада ў Малой зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца юбілейны канцэрт Філармоніі для дзяцей і юнацтва. Вас з нецярпеннем чакаюць тыя, для каго праца — заўсёды свята! І ў гэтым ім можна па-добраму пазайздросціць.

**Ала АГАРКАВА,**
**музыказнаўца**

*Развагі з нагоды*

# Прывілей творцы

**Здаецца, толькі ўчора быў наш першы ўстаноўчы сход... На зыходзе 2005-га крыху больш як дзясятак пісьменнікаў Гомельшчыны палічылі важным вырашаць задачы разам, аб'яднаўшыся ў творчую арганізацыю.**

Увесь гэты час мы — 53 празаікі і паэты, драматургі, публіцысты, літаратуразнаўцы — былі разам, падтрымлівалі адзін аднаго, каб дапамагчы гомельскаму чытачу адкрыць сваіх пісьменнікаў.

Нялёгкая, прама скажам, справа! Складана было ўсё арганізаваць, знайсці фінансавыя сродкі, але ўдалося. Найперш праз калектыўныя зборнікі, альманах «Літаратурная Гомельшчына», невялікія дадаткі да яго ў серыі «Бібліятэка Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» (іх выйшла з друку за гэты час больш як 20!). Пісьменнікі аддзялення атрымлівалі значную дапамогу ад нашай арганізацыі ў папулярызацыі сваіх кніг. За гэты час іх выдадзена больш як 200.

Многія творцы атрымалі ганаровы знак СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру» і ўдастоены звання «Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі», адзначаны медалямі і знакамі Саюза пісьменнікаў Расіі, Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва.

Па ініцыятыве Савета аддзялення нашы калегі сталі ганаровымі грамадзянамі многіх раёнаў: сёлета, прыкладам, Ганаровым грамадзянінам Жлобіншчыны стаў паэт і мастак Генадзь Говар.

Гомельскія літаратары сталі жаданымі гасцямі ў школах і дзіцячых садках, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, сустракаюцца з чытачамі ў бібліятэках, на прадпрыемствах і ў арганізацыях. І калі часам чуеш: маўляў, якая карысць дзяржаве ад пісьменнікаў, — то магу адказаць: колькасць творчых сустрэч, выступленняў, прэзентацый — звыш 16 тысяч!

Заўважны клопат аддзялення — праца з творчай моладдзю. За дзесяць гадоў праведзена больш як 50 конкурсаў. Многія пераможцы сталі членамі пісьменніцкай арганізацыі. За кошт сродкаў аддзялення выдадзена некалькі кніг маладых аўтараў, а сёлета, у Год моладзі, перспектыўным маладым літаратарам цалкам аддадзеныя старонкі альманаха «Літаратурная Гомельшчына», які выдаецца ўжо дзясяты год.

Асобнае слова — пра абласную моладзевую літаратурную школу. Дзякуючы дзяржаўнай падтрымцы і клопату нашых калег яна плённа працуе на базе абласнога Дома творчасці.

Разам мы змаглі рэалізаваць нямала творчых праектаў, многія з якіх сталі традыцыяй. Самы заўважны — свята «Літаратурныя дажынкі». Звычайна ўвосень літаратары Гомельшчыны трымаюць творчую справаздачу перад чытачамі пра зробленае на працягу года. Выязджаем у раёны, аграгарадкі і вёскі, выступаем перад чытачамі, сустракаемся з будучымі героямі сваіх кніг. Свята перарасло ў міжнародны фестываль «Славянскія літаратурныя дажынкі» з удзелам пісьменнікаў Беларусі, Расіі, Украіны, дзякуючы якому сёння наладжаны творчыя кантакты і супрацоўніцтва з шасцю пісьменніцкімі арганізацыямі славянскіх краін.



На пачатку снежня ў Гомельскай вобласці ладзіцца IX фестываль-свята «Славянскія літаратурныя дажынкі-2015». Пісьменнікі выступяць у школах і дзіцячых садках, падораць юным чытачам і настаўнікам новыя творы.

Нямала зроблена дзеля ўшанавання памяці калег, якія пайшлі з жыцця, — Ігара Журбіна, Фелікса Мысліцкага, Алеся Дуброўскага, а таксама пісьменнікаў-папярэднікаў. Сумесна з аддзелам адукацыі Жыткавіцкага райвыканкама ў СШ № 1 г. Жыткавічы арганізаваны музей Міколы Гамолкі. Дзякуючы сумеснай рабоце з Пакалюбіцкім сельскім выканаўчым камітэтам усталявана памятная дошка на доме, дзе жыў і працаваў выдатны празаік Іван Сяркоў. У гонар гомельскіх літаратараў, якія пайшлі з жыцця, зацверджаны абласныя літаратурныя прэміі, праводзяцца творчыя вечары.

Мы адчуваем падтрымку з боку Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўніцтва горада, абласной улады. Плённа працуем з культурна-асветніцкімі, адукацыйнымі ўстановамі, бібліятэкарамі, Гомельскім аддзяленнем Фонду міру, абласной ветэранскай арганізацыяй і інш.

Сёлета з-пад пяра маіх калег выйшла звыш 20 добрых кніг. У ліку аўтараў варта адзначыць Васіля Ткачова, Міхася Сліву, Галіну Нячаеву, Віктара Лоўгача, Анатоля Караленку ды іншых. З новымі творамі ў хуткім часе наведаем палескую глыбінку, Ельскі раён: там шчыры, удзячны чытач, які нас даўно зачакаўся.

Сур'ёзны публіцыстычны праект «Жывая памяць маёй сям'і» ажыццявілі і ўвасобілі ў кнізе Алег Ананьеў, Юрый Максіменка і Юрый Рачынскі. Дзякуючы творчым кантактам з таганрогскімі, краснадарскімі, глухаўскімі партнёрамі ў межах праекта «Берагі дружбы» пабачыла свет і кніга перакладаў «Атожылкі славянскага камля» — вершы паэтаў-гамяльчан на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах.

У пісьменнікаў, якіх ужо добра ведаюць жыхары рэгіёна і краіны, па-ранейшаму застаецца адзін важны прывілей: пісаць высокамастацкія творы. Ад сапраўднай літаратуры не адмовіцца ніводзін чытач!

**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ,**
**старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

*Пошукі і знаходкі*

# Галоўнае — не захвальваць!

**Літаратары ніколі не ставіліся да крытыкаў з аднадушнай добразычлівасцю. Але на працягу некалькіх стагоддзяў літаратурны працэс немагчыма ўявіць без асобы літаратурнага крытыка. Секцыя крытыкі і літаратуразнаўства працуе і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Пра дзейнасць сваіх калег распавёў старшыня секцыі Алесь Марціновіч.**



**— Алесь Андрэевіч, якія работы крытыкаў і літаратуразнаўцаў з Саюза пісьменнікаў Беларусі вы хацелі б параіць чытачам?**

— Сёлета пабачылі свет кнігі Таццяны Шамякінай «Парадоксы часу, альбо Рамантыка савецкай навукі», Зіновія Прыгодзіча «Постаці: сэрца мільёнаў падслухаць біцця», Дзяніса Марціновіча «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча». З нядаўніх выданняў можна прыгадаць кнігу Уладзіміра Гніламёдава «На памежжы часоў», прысвечаную рускамоўнай паэзіі Беларусі. Працуюць над новымі кнігамі Анатоль Андрэеў і Алесь Карлюкевіч.

**— Ці спрабуюць сябе ў ролі крытыка аўтары з іншых творчых секцый?**

— Безумоўна, ёсць жаданне падтрымаць адзін аднаго, звярнуць увагу на дасягненні калег. Але калі чытаеш рэцэнзіі, падаецца, што кожны другі наш сучасны аўтар — гэта Купала ці Багдановіч. Не варта захвальваць творцу, ужываць зашмат прыгожых эпітэтаў. У гэтым сэнсе трэба быць больш сціплымі.

**— Ці ладзяцца ў секцыі крытыкі і літаратуразнаўства майстар-класы, творчыя семінары?**

— Творчыя пошукі — гэта справа індывідуальная, тут наўрад ці варта зашмат падштурхоўваць, прапаноўваць. Але было б няблага, каб адрадзілася традыцыя творчых семінараў для моладзі, якія раней штогод ладзіліся ў Каралішчавічах, потым у Ісланы. Маладыя аўтары з захапленнем слухалі Івана Шамякіна, Янку Брыля, Івана Чыгрынава... Семінары былі асабліва карыснымі для аўтараў з перыферыі, якія знаёміліся са сталічнымі пісьменнікамі і супрацоўнікамі літаратурна-мастацкіх выданняў.

**— Цікава, ці прымаюць у СПБ аўтараў электронных кніг?**

— Пакуль такой практыкі няма, бо ў статуце нашай арганізацыі гэта не прадугледжана. Але што да крытыкаў, то, на маю думку, іх можна прымаць без кніг — па газетных, часопісных, навуковых публікацыях. Бо кніга паэзіі можа быць невялікай, на адзін друкаваны аркуш, а вось кніга крытыкі прадугледжвае большы аб'ём і, адпаведна, патрабуе большых фінансавых укладанняў.

**— Беларуская літаратурная крытка мае даволі доўгую гісторыю. Чые крытычныя артыкулы, на вашу думку, вартыя асаблівай увагі сённяшняй літаратурнай моладзі?**

— Тут можна назваць шмат вартых асоб: Варлен Бечык, Уладзімір Калеснік, Рыгор Бярозкін, Сцяпан Александровіч. Вядома, ім даводзілася ў большай ці меншай ступені аддаваць даніну часу, але наогул гэта той узровень, на які трэба арыентавацца крытыку.

**Юлія ШПАКОВА**

*Прыярытэты*

# Яшчэ і выдаць...

**Кнігу недастаткова напісаць — яе трэба яшчэ выдаць і данесці да чытача. Радуе, што многія беларускія выдавецтвы, асабліва Выдавецкі дом «Звязда», «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», «Пачатковая школа», «Адукацыя і выхаванне», «Чатыры чвэрці», «Беларуская энцыклапедыя», вялікую ўвагу надаюць менавіта дзіцячай літаратуры: гэта — прыярытэтны накірунак.**



Дзіцячая літаратура ў Беларусі развіваецца плённа. Сведчанне таму — публікацыі твораў айчынных пісьменнікаў у часопісах «Вясёлка», «Бярозка», «Родная прырода», «Буся», «Качели», «Рюкзачок» ды інш.

Водгукі на новыя кнігі для дзяцей можна прачытаць і ў такіх салідных часопісах і газетах, як «Нёман», «Полымя», «Маладосць», «Звязда», «ЛіМ». Сёлета ў нашай краіне заснаваная Нацыянальная літаратурная прэмія, дзе асобнай намінацыяй пазначана дзіцячая літаратура. Лепшыя кнігі дзіцячых пісьменнікаў прадстаўлены на міжнародных кніжных выстаўках, некаторыя з іх перакладзены на замежныя мовы.

Па-ранейшаму актыўна працуюць у згаданым жанры старэйшыя пісьменнікі: Ніна Галіноўская, Уладзімір Ліпскі, Мікола Чарняўскі, Георгій Марчук, Міхась Пазнякоў, Мікола Маляўка, Віктар Гардзей, Яніна Жабко ды інш.

Асабліва парадавалі апошнім часам юнага чытача цікавыя і пазнавальныя кнігі прадстаўнікоў сярэдняга пакалення: «Прыгоды Васі Лайдачкіна» Генадзя Аўласенкі, «Прыгоды Шубуршуна» Алеся Карлюкевіча, «Зорка для вавёркі» Алеся Бадака, «Хто ў лесе самы смелы?» Тацціяны Мушынскай.

У дзіцячую літаратуру прыйшлі і таленавітыя маладыя творцы — Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Алена Турава, Вольга Нікольская, Дзмітрый Саўчык, Алена Мальчэўская…

Вялікае значэнне надаём патрыятычнаму выхаванню юных чытачоў, ладзім сустрэчы ў школах, гімназіях, дзіцячых садках, бібліятэках.

**Уладзімір МАЗГО,**
**старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Барацьба за рамантызм — барацьба за чалавечнасць

## Знакавая падзея сёлета — 90-гадовы юбілей паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»

**Зварот Якуба Коласа да рамантычнага метаду мог здацца нечаканым: пісьменнік — выдатны майстар яркага, псіхалагічна тонкага рэалістычнага малюнка, які ўбірае ў сябе нюансы духоўнай і матэрыяльнай сфер рэчаіснасці. Менавіта на такім высокім мастацкім узроўні разгортваецца думка ў «Новай зямлі», праца над якой храналагічна амаль поўнасцю супадае з працай над паэмай «Сымон-музыка». Але ў апошняй паэт абраў іншы кірунак.**

### ПРА ТОЕ, ЧАГО НЕ БЫЛО

Цалкам дапушчальная думка, што пры адпаведных умовах «супрацоўніцтва» рэалізму і рамантызму магло б адбывацца больш інтэнсіўна і прадуктыўна ў беларускай літаратуры паслякастрычніцкага перыяду. Былі і сур'ёзныя мастацкія традыцыі як неабходная аснова-трамплін для развіцця гэтай «тэндэнцыі», і пісьменнікі, самой прыродай таленту закліканыя да рэалістычна-рамантычнага ці выключна рамантычнага ўспрыняцця і асэнсавання рэчаіснасці.

Ці ж не наводзіць на такі роздум глыбокі і яркі талент М. Зарэцкага? У многіх яго творах рамантызм прысутнічае не эпізадычна-ўмоўна, а выяўляецца праз выразныя стылёва-метадалагічныя прыкметы.

Дарэчы, не вельмі садзейнічала такому «супрацоўніцтву» тэорыя сацыялістычнага рэалізму ў сваіх горшых, вульгарна-сацыялагічных адбітках. Яна не прызнавала наяўнасці ў савецкай літаратуры рамантызму як самастойнага і паўнапраўнага творчага метаду. Калі ж некаторыя літаратуразнаўцы спрабавалі не пагаджацца з існуючымі літаратурнымі стэрэатыпамі, імкнуліся выявіць рэальныя адзнакі метадалогіі рамантызму ў творах савецкіх пісьменнікаў, то колькі-небудзь шырокай падтрымкі такія захады не знаходзілі.

Супрацьдзеянні на шляху развіцця рамантызму як літаратурнай тэорыі, натуральна, шкодзілі і мастацкай практыцы, прытым найбольш адчувальныя страты панесла паэзія. З ёю рамантызм як творчы метад звязаны цеснымі і разнастайнымі сувязямі. Але нешта значнае ў мастацкім даследаванні жыцця недабірала і проза.

Талент такога неардынарнага празаіка, як Міхась Лынькоў, бясспрэчна, быў пераважна рамантычнага складу. І там, дзе аўтар у найбольшай адпаведнасці з магчымасцямі свайго таленту падпарадкоўваў яму жыццёвы матэрыял і ідэю твора, мы знаходзім у пісьменніка і найбольш плённыя мастацкія здабыткі — аповесць «Міколка-паравоз», шэраг твораў малога жанру (апавяданні «Над Бугам», «Гой», «Андрэй Лятун» і інш.). Што да рамана «Векапомныя дні», пры ўсіх сваіх вартасцях вялікай літаратурнай падзеяй ён не стаў.

Патэнцыял творчасці шэрагу нашых паэтаў і празаікаў быў намнога багацейшы, чым здаецца цяпер. Далёка не вычарпала сябе даследчыцкая думка і ў вывучэнні коласаўскай паэмы «Сымон-музыка».

### КОЛАС І ЯГО ГЕРОЙ

З рамантызмам паэму «Сымон-музыка» звязвае цэлы шэраг прыкмет: споўненых годнасці герой, які робіць выклік побытаваму ўціску жыцця ў імя вышэйшых інтарэсаў — духоўнай і творчай свабоды; прасякнутае рамантычным пафасам імкненне аўтара абудзіць у чытача цікавасць да фальклорна-гістарычнай памяці народа; багаты малюнак сімволіка-алегарычных умоўнасці. І самае галоўнае — рамантычная ў аснове сваёй «хада сюжэта» і рамантычны спосаб дэтэрмінацыі характараў.

Я. Колас не вельмі турбуецца, напрыклад, пра тое, каб сюжэт захоўваў строгую храналагічную паслядоўнасць, плаўнасць пераходаў з аднаго плана ў другі. Паэт злучае асобныя кампаненты твора ў сюжэтную цэласнасць па законах даволі свабоднай і часта ўмоўна-асацыятыўнай сувязі. І чытач прымае такі свабодны прынцып сюжэтабудовы, бо аўтарская свабода выяўляецца не ў межах бескантрольнай адвольнасці, але падпарадкаваная строгім мастацкім законам — законам рамантызму.

У паэме «Сымон-музыка» закладзеная своеасаблівая філасофская праграма, якая разгортваецца паступова і трансфармуецца ў новую сістэму эпічных мастацкіх малюнкаў, закранаючы сутнасныя ідэйна-эстэтычныя моманты іншых твораў Я. Коласа.

Асаблівая яскравая гэтая прыкмета раскрываецца на тых мастацкіх лініях, што закранаюць праблему чалавечага ўчынку, волі і сілы, скіраваных на супрацьдзеянне неспрыяльным абставінам.

> *Якуб Колас у імкненні да вялікай мэты асцерагаўся забыцца пра кожнага асобнага чалавека, пра яго лёс і індывідуальнае права на самастойную думку, погляд, дзеянне. Асцерагаўся ў паспешлівасці абмінуць чалавека, якому патрэбная ўвага, а падчас — і неадкладная дапамога.*

Галоўны герой паэмы ўжо ў падлеткавым узросце выяўляе не толькі прагу вольнага жыцця, але і няспынныя адкрытыя спробы здзяйснення гэтай мэты. Свае вольналюбівыя намеры, як гэта часта назіраецца ў рамантычных творах, герой выказвае ў адкрытай форме. Так, на заўвагу вартаўніка панскага парку дзеда Данілы, што «на ўсё ёсць свая часіна, і ўсё прыйдзе ў свой часе», Сымон (цяпер ужо не хлапчук, а юнак) прамаўляе:

*А як стане не ў трыванне,*
*І тады чакаць пакорна,*
*Покі стане жыць прасторна?*
*А змаганне? Дзе ж змаганне?*
*Ой, не, дзедку: працій сілы*
*Можна ставіць толькі сілу,*
*Калі хочаш ты стаць з пылу,*
*Калі цягнуць з цябе жылы.*

Крытыкі і літаратуразнаўцы вельмі часта цытавалі гэты ўрывак, асабліва тады, калі ў вялікай пашане быў прынцып звужанай сацыялагізацыі мастацкіх з'яў, калі многім заканадаўцам ад палітыкі, сацыялогіі, эканомікі і г. д. здавалася, што пры адпаведных намаганнях і захадах любой жыццёвай з'яве можна надаць не толькі паскораны, а звышпаскораны дынамічны рух, карэнным чынам перарабіўшы яе ўнутраную прыроду.


1
3. Сымона Музыкі
—
Том Чацвёрты, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1952 г.
«Сымон Музыка»
Стр. 423.
Якуб Колас

У шэрагу іншых твораў Я. Колас выяўляе сімпатыю да чалавека, які не гне пакорліва спіну перад чужой воляй. Запамінаецца, напрыклад, бунт-пратэст героя «Новай зямлі» Міхала супраць зняважліва-абыякавага і несправядлівага да сябе стаўлення з боку лясніча. І ў апавяданні «Бунт» у поле зроку і пазітыўнай характарыстыкі аўтара зноў-такі трапляюць людзі, што «не баяцца сказаць праўду ў вочы» і здольныя гарой пастаяць «проці крыўды сельскай грамады».

Аднак па-сапраўднаму захапляе пісьменніка ўсё ж такая сіла і такая воля, якія скіраваныя на ўзгадненне дзеянняў з мудрым, гуманістычным поглядам на свет, з удумлівай развагай аб суадноснасці зменліва-бегучай штодзённасці з найбольш устойлівымі прыярытэтамі жыцця. Без такога імкнення (хоць яно не заўсёды выразна акрэсліваецца) нам цяжка было б уявіць герояў паэмы «Новая зямля» братоў Міхала і Антося.

Новую якасць падобных дзеянняў-імкненняў, арыентаваных на гуманістычнае і цэласнае асэнсаванне жыцця, мы якраз і знойдзем у коласаўскай паэме «Сымон-музыка». Я. Колас пагаджаецца з меркаваннямі сваіх герояў пра тое, што да сур'ёзных пытанняў і падыходзіць трэба сур'ёзна, непаспешліва і што нічога добрага «не зробіш без пары». Не адмаўляе аўтар неабходнасць быць уважлівым і духоўна чуйным. Пры гэтым пісьменнік непрымальна ставіцца да такой сілы і волі, якія набываюць форму аднабаковай эгацэнтрычнай суб'ектывізацыі і спрабуюць адваяваць сабе неабмежаванае права націску на рэчаіснасць, парываючы сувязі з маральна-этычнымі, інтэлектуальнымі і гуманістычнымі каштоўнасцямі.

Менавіта пра гэта разважае Сымон, звяртаючыся са слёзнай просьбай «паказаць навуку» да прафесійнага музыканта, капельмайстра Галыгі:

*Без навукі жыць пагана;*
*Яе сню, панок, у сне —*
*Так хачу я знаць навуку,*
*За яе б аддаў жыццё…*
*Хоць бы першае знаццё.*

Навука патрэбная Сымону як сродак спазнання ісціны. А ісціна і праўда неабходныя для таго, каб з надзеяй і ўпэўненасцю пайсці «ў свет маўклівы, людзям вочы адчыніць». Мара героя — выразны знак настрою самога аўтара, адлюстраванне яго грамадзянскай пазіцыі і эстэтычнай праграмы. Як вынікае з паэмы, толькі пісьменнік-прафесіянал можа различаць у сваіх імкненнях на паглыблены, праўдзівы паказ жыцця. З іншага боку, толькі аб'ектыўнае, праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці здольнае абудзіць чалавечую свядомасць і выканаць такім чынам грамадзянскую місію.

### РЭВАЛЮЦЫЯ/ЭВАЛЮЦЫЯ

У межах глыбокага роздуму над гэтым пытаннем — рэвалюцыя і эвалюцыя, валявы націск і ўдумлівая рэформа — Я. Колас закранае некаторыя іншыя пытанні, што маюць непасрэднае дачыненне да літаратурнай і грамадскай гісторыі. У прыватнасці, ён паглыбляў разуменне самой сутнасці паняцця сацыяльна-псіхалагічнай актыўнасці чалавека. Адлюстроўваючы свой час, аўтар глядзеў далёка наперад.

Выдатны мастак слова, Я. Колас закладваў тэарэтыка-метадалагічны падмурак нашай літаратуры, «усталёўваючы» шырокамаштабны погляд на праблему духоўнага і грамадзянскага дзеяння чалавека. У паэме «Сымон-музыка» ён быццам прадбачыў паварот недаспелай, саманадзейнай тэарэтычнай думкі, якая стане «адлучаць» чалавека ад высокай сферы духоўнасці. І ўжо зусім непрыхільна, а найчасцей рэзка асуджальна ставілася вульгарна-сацыялагічная крытыка да герояў, якія сумняваліся ў грамадскай эфектыўнасці ультрарэвалюцыйнага слова і ультрарэвалюцыйнага дзеяння. Мы толькі цяпер пачынаем па-сапраўднаму ўсведамляць вялікую маральную, сацыяльную, палітычную і эканамічную страту, учыненую грамадству суб'ектывісцкай сталінскай канцэпцыяй гвалту над гісторыяй, з якой, паводле слоў вучонага-гуманітарыя Г. Шахназарава, быццам бы «можна рабіць усё, што захочаш, — гнаць у любым напрамку, як удалога рысака, растоптваючы ўсіх, хто меў няшчасце апынуцца на шляху».

Мастацкая думка ў паэме «Сымон-музыка» працуе на іншых каардынатах. Аперыруючы шырокімі, філасофска-абагуленымі катэгорыямі, выяўляючы клопат пра лёс Бацькаўшчыны, Я. Колас асцерагаўся раптам забыцца ў імкненні да вялікай мэты пра кожнага асобнага чалавека, пра яго лёс і індывідуальнае права на самастойную думку, погляд, дзеянне, каб у паспешлівасці вырашэння вялікіх і значных спраў не абмінуць чалавека, якому патрэбная ўвага, а падчас і неадкладная дапамога.

Алегарычны свавольнік-прамень, што прыходзіць на дапамогу «заледзянелай у жудаснай муцы» хмарцы, якраз дзейнічае ў духу гуманістычных аўтарскіх прынцыпаў. Тут мастацкая думка Я. Коласа перагукаецца з вядомым выказваннем Дастаеўскага пра тое, што шчасце для ўсіх не можа быць надзейным і паўнакроўным, калі ў гэтай калектыўнай, гуртавой радасці людзі застаюцца абыякавымі і безуважнымі хоць бы да адной-адзінай жывой душы, да адной-адзінай слязінкі дзіцяці.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ**

# Чароўнаю ніткаю…

**Рэспубліканская выстаўка мастацкага тэкстылю «Знітаванне» прайшла ў сталічнай галерэі Міхаіла Савіцкага. Свае работы прадставілі 45 творцаў з розных рэгіёнаў краіны.**

Мінск — трэці горад, які прымае выстаўку. Работы экспанаваліся таксама ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі падчас міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» і ў Мастацкай галерэі Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Валоданне тканінай прадэманстравалі айчынныя мастакі-тэкстыльшчыкі не толькі старэйшага пакалення, але і моладзь. Сярод аўтараў — Людміла Пятруль, Вера Блінцова, Ларыса Густава, Маргарыта Шчамялёва, Любоў Кірылава, Уладзімір Лісавенка, Таццяна Рудэнка, Наталля Кімстач, Генадзь Фалей ды многія іншыя. Майстры выкарыстоўвалі мноства тэхнікі: ад традыцыйных да сучасных — габелен, лямец, вышыўку, батык, пэч-ворк, тэкстыльныя арт-аб'екты. Творы выкананыя пераважна з арганічных, натуральных матэрыялаў.



Таццяна і Юрый Рудэнка «Горад Шагала», 1996 г.

Пры відавочным непадабенстве творчых почыркаў агульнае ў іх усё ж такі ёсць: паэтычнае адлюстраванне рэчаіснасці, нацыянальныя і фальклорныя матывы, звяртанне да старажытных сімвалаў, міфалогіі і гісторыі роднага краю. Творцы сумяшчаюць жывапісныя, графічныя, скульптурныя і тэкстыльныя прыёмы.

«Назва выстаўкі мае філасофскае гучанне. Гэта ніць, якою тчэцца аўтарскі габелен, і ў той жа час — сувязь пакаленняў, пераемнасць традыцый і наватарства», — заўважыла падчас адкрыцця экспазіцыі старшыня секцыі мастацкага тэкстылю Беларускага саюза мастакоў Вера Блінцова.

Майстры выкарыстоўваюць класічныя прыёмы і засвойваюць новыя тэхнікі, эксперыментуюць з формай, фактурай і колерам, нетрадыцыйнымі матэрыяламі. У вырабах, лірычных і духоўных, увасобленыя прыгажосць і гармонія навакольнага свету. Часта з'яўляюцца прыродныя вобразы — дрэвы, птушкі, кветкі…



Фота Кастуся Дробава.

Ларыса Густава «Цудоўны дзень» (цэнтральная частка трыпціха) «Поўдзень», 2013 г.

Мэта ўдзельнікаў экспазіцыі — вывучэнне сваіх каранёў і вытокаў, папулярызацыя народнай творчасці сярод моладзі, развіццё мастацкага тэкстылю з улікам рэгіянальных асаблівасцей.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Закаханыя ў жыццё

**Адчуць хараство ў будзённым і звыклым запрашае мастацкая галерэя «Універсітэт культуры», дзе працуе выстаўка вышываных карцін клуба «Сузор'е» Беларускага саюза жанчын.**

Клуб вышывальшчыц «Сузор'е», які аб'яднаў майстрых розных узростаў і прафесій, існуе ўжо восем гадоў. На яго рахунку — каля трыццаці выставак.

Як паведаміла кіраўнік клуба Наталля Сак, чарговая экспазіцыя — своеасаблівая творчая справаздача. Арганізатары адабралі каля 130 лепшых работ, выкананых у розных тэхніках сучаснай вышыўкі. Гэта крыж, паўкрыж, габеленавае шво, петыт-пойнт, ручная гладзь ды інш.




Святлана Піваварчык «Мікалай Цудатворац», 2010 г.

Выстаўка атрымалася панявасенняму цёплай і пяшчотнай. Карціны, прасякнутыя светлай энергетыкай, ствараюць пазітыўны настрой, напаўняюць натхненнем. Тут шмат каларытных пейзажаў, цікавых сюжэтных кампазіцый, выразных і характэрных партрэтаў. Часта сустракаюцца прыродныя матывы, дзіцячыя і жаночыя вобразы. Асобнае месца займаюць нацюрморты з кветкамі: у зале ўстановы «распусціліся» ружы, півоні, гладыёлусы, хрызантэмы, магноліі… Моцнае ўражанне пакідаюць вышываныя іконы, а таксама выдатныя рукатворныя копіі карцін выбітных жывапісцаў.

Кожная работа — цэлы маленькі сусвет, створаны працавітымі рукамі з дапамогай звычайнай іголкі і рознакаляровых нітак. Вырабы, вытанчаныя і далікатныя, зачароўваюць ювелірнай дасканаласцю. Сюжэты, на першы погляд простыя і немудрагелістыя, заклікаюць гледача паразважаць, знайсці адметнае ў звычайных рэчах.



Фота Кастуся Дробава.

Таццяна Барадзіна «Табун», 2013 г.

Адкрыццё выстаўкі супала з візітам у нашую краіну дэлегацыі Літвы, Малдовы і Швецыі ў межах міжнароднага праекта «Падарожжа за мяжу — прасоўванне сацыяльнай і эканамічнай актыўнасці жанчын у развіцці партнёрскай сеткі паміж Еўрапейскім саюзам і Усходняй Еўропай». Прадстаўнікі замежных дзяржаў адзначылі высокае майстэрства вышывальшчыц, цеплыню і шчырасць работ.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Мода для народа

**У вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстаўка «*Fashion is my passion!*». Модная індустрыя 1970-х — 90-х гадоў: беларускі фармат.**




Гэта першая спроба паглядзець на індустрыю беларускай моды праз прызму асабістых гісторый і ўспамінаў актыўных удзельнікаў тых падзей. Як функцыянавала беларуская модная індустрыя і хто стаяў ля яе вытокаў? Відавочна, што ў познесавецкі перыяд мода ўсё яшчэ з'яўлялася «парадным партрэтам» дзяржавы, часткай ідэалагічнай канцэпцыі праекта «светлай будучыні», які ўжо тады знаходзіўся ў крызісе.

У межах гэтай выстаўкі мода ўспрымаецца як знакавая сістэма. Увага канцэнтруецца на вывучэнні поля fashion-індустрыі Беларусі — інстытутаў і галоўных «ігракоў», стасункаў паміж імі. Фотаздымак тут — адначасова і дакумент, які ілюструе гэтую сістэму, і асаблівы спосаб выказвання. Так арганізатары адказваюць на пытанне: наколькі магчыма і дарэчна наогул казаць пра беларускую *fashion*-фатаграфію як феномен?

А вы як мяркуеце?

**Ганна ШЫМУК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Намеснік галоўнага рэдактара
Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 5.11.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1948.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1496 г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12